


# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

20 кастрычніка 2017 года №42 (1173)

## Работнік завода:
# "Кілбаса для нас раскоша, не кажучы пра рэстараны ці кафэ"

старонка 3

Фота Наталлі ТУР.

НАВІНЫ

## У Маладзечне пачала працаваць суполка блізкіх алкаголікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Любая сям'я, жонка і дзеці, якія вымушаныя жыць з алкаголікам, паступова самі становяцца людзьмі са скалечанай псіхікай.**

Што рабіць у такім выпадку? У Маладзечне пачынае працу група падтрымкі людзей, чые блізкія пакутуюць на алкагольную залежнасць.

Хто можа наведваць групу? Жонкі, мужы, сябры, сёстры і браты, дзеці і бацькі алкаголікаў. Незалежна ад таго, у якіх вы адносінах з алкаголікам, п'янства блізкага глыбока ўплывае на наша жыццё.

**У групе дзеляцца адзін з адным досведам пераадольвання цяжкасцяў, сілай і надзеяй.**

Як гэта дапаможа? Напэўна, вам будуць блізкія тыя пачуцці, якія многія перажываюць з-за ўплыву алкагалізму блізкіх. Кожны з нас па-свойму імкнецца да паляпшэння сваёй сітуацыі. У групе дапамогу знойдзе кожны, для каго праблемай з'яўляецца алкагалізм сваяка, сябра ці калегі.

Ці абавязкова расказваць пра сябе? Калі вы хочаце гаварыць – можаце выказацца. Калі вы жадаеце пасядзець і паслухаць – калі ласка. Мы імкнёмся слухаць адзін аднаго з адкрытай душой і прапануем: "Прыміце тое, што вам спадабалася, і забудзьце астатняе".

Ці можа хтосьці расказаць, што бачыў мяне ў групе? Мы захоўваем ананімнасць, звяртаемся адзін да аднаго па імю, ніколі не гаворым пра прысутных і не паўтараем тое, што чулі. Гэта нясе бяспеку ўсіх удзельнікаў групы.

Колькі гэта каштуе? У групе няма ніякіх унёскаў.

Сустрэчы будуць праходзіць у Палацы культуры ў Маладзечне (левы ўваход), аўдыторыя 158.

Тэлефон для даведак: (8029) **753-52-60**.

**Клуб "Дыялог+".**

## Правялі лекцыю, як пачаць бізнес

ВАЛОЖЫН

Мерапрыемства прайшло ў межах праекта "Валожын без бар'ераў", што фінансуе Еўрасаюз.

Запрошаным госцем быў **Міхаіл Феактыстаў**, гаспадар вытворчай кампаніі РЭД і медыя-групы "Арт-прэстыж".

**Ён распавёў пра тое, як наладзіць бізнес з нуля, выжываць сярод канкурэнтаў і даследаваць рынак.**

Разам з ім прыехалі настаўнікі ўдзельнікаў конкурсу сацыяльных бізнес-праектаў. У гэтым конкурсе удзельнічала 11 прадпрымальнікаў, пяць з іх выйшлі ў наступны тур.

Спецыялісты далі ім кансультацыі, піша газета "Працоўная слава".

## Пачалі работы па кансервацыі Княскай вежы Крэўскага замка

СМАРГОНЬ

Ад кастрычніка рэшткі замка абгароджаныя, з'явілася будаўнічая тэхніка.

Праект кансервацыі праводзіцца у межах Дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі". Часовае пакрыццё абароніць вежу аж дажджу і снегу. Паверхні ачысцяць, апрацуюць і ўмацуюць.

Паводле "Гродзенскай праўды", у 2018 годзе плануюць пачаць кансервацыю Паўночнай сцяны.

## Адкрылі выставу старадаўніх прадметаў

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы можна паглядзець, якімі прыладамі карысталіся жанчыны ў гаспадарцы 100 год таму.

Выстава "У дапамогу гаспадыні" будзе працаваць да 31 кастрычніка, паведамілі ў музеі.

**Аддзел інфармацыі.**

# У барысаўскіх Печах знайшлі мёртвага салдата

**Нядаўна ў барысаўскіх Печах, дзе праходзяць вучобу салдаты тэрміновай службы (кухары, кіроўцы, кінолагі і г.д.), знайшлі павешаным маладога хлопца – 21-гадовага Сашу Коржыча. Ён служыў у трэцяй школе, трэцяй роце, другім узводзе.**



Фота Аляксандра Коржыча з сацыяльных сетак.

Да службы ў арміі Коржыч быў паспяховым хлопцам. Ён добра зарабляў як аўтамеханік, у яго было шмат сяброў, ён вёў актыўны лад жыцця.

Гэта другі чалавек за год: 31 сакавіка ў Печах у пятлі знайшлі **Арцёма Басцюка**. Следства па ягонай смерці дагэтуль не скончылася.

Па словах маці, хлопца знайшлі мёртвым у падвале праз некалькі дзён пасля таго, як ён памёр. А дагэтуль ён быў у медроце: піў вугаль з валяр'янкай ад тэмпературы і прасіў бацькоў выслаць антыбіётыкаў.

Тут медыкі і афіцэры ківаюць адзін на аднаго: маўляў, мы думалі, што ён быў у медыкаў, а тыя кажуць, што мы яго выпісалі…

Падчас сустрэчы сын распавядаў маці, што сяржанты прыводзілі ноччу прастытутак, аб'яўлялі роце "трывогу", самі забаўляліся з імі, а іх прымушалі глядзець. Пра сэксуальны гвалт…

– Там быў канкрэтны рахунак, які выстаўляўся за бяспеку, – кажа маці, – 15 рублёў на дзень. Ён спачатку супраціўляўся, але яго моцна білі. Агулам з карты Сашы знікла ў невядомым кірунку 1500 рублёў. Ён прасіў мяне высылаць яму грошы, я высылала. І я ведала, што іх адбіраюць прапаршчыкі і сяржанты, але што мне рабіць было, каб яго там забілі?

– Калі забралі цела, па словах маці, на ім былі гематомы ў паху, у раёне печані, нырак. І ўся галава ў дробных ранах, нібы шылам калолі.

Шэраг службовых асоб 72-га АНЦ звольнены з радоў Узброеных Сіл за непрынянцце мер па прадухіленні гібелі вайскоўца, у тым ліку начальнік 3-й школы падрыхтоўкі спецыялістаў, начальнік штаба – першы намеснік начальніка школы, камандзір вучэбнай роты, старшына медыцынскай і старшына вучэбнай роты.

Сярод адхіленых ад выканання службовых абавязкаў – начальнік штаба – першы намеснік начальніка 72-га АНЦ і начальнік медыцынскай службы цэнтра.

Маці гадавала сына адна. Больш дзяцей у жанчыны няма.

**Паводле "Нашай Нівы".**

**Камент-эксперт**

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

"Няма хлопчыка, а жыццё толькі пачыналася… Ніякія дзеянні не вернуць маме сына. А сістэму трэба ўсю мяняць. Бардак у краіне!" ***Святлана.***

"Як страшна за дзяцей, унукаў. А нялёгка ж нарадзіць і выгадаваць. А потым забяруць у нас, мам, не спытаюць. Крыўдна і балюча". ***Валянціна***

"Афіцэры атрымаюць на поўную катушку. Я там у 59 аўташколе ў 2002-м служыў. Кругавая парука – страшная рэч. А калі самы галоўны нязгодны дзед – твой камандзір роты, то не зламацца вельмі складана. Спадзяюся, грамадскі рэзананс хоць крыху ўскалыхне гэта балота". ***Дзмітры.***

"Хацелася б, каб знайшлі вінаватых і пакаралі, каб іншым не павадна было такое тварыць". ***Людміла.***

Было і такое, і нават страшней. Тады каго каралі, а каго па іншых часцях раскідалі. ***Валодзя.***

За пару год быў і ў "вучэбцы", і ў баявой часці, і побач стаялі часці розных відаў войск, але не было такога! Служыў у 1987-1989, калі армія пачала скочвацца па ўсіх пазіцыях уніз. ***Ігар.***

Немагчыма зразумець, каб у мірны час гінулі ў войску ні ў чым не вінаватыя салдаты. Раней служылі разам і рускі, і узбек, і беларус. І да такога, напэўна б, не дадумаліся. А тут служаць толькі беларусы і так здзекуюцца са свайго. Гэта выраджэнне нацы! ***Ганна.***

## Як дамагчыся, каб зрэзалі дрэва ў чужым двары

**З пытаннем, як можна прыбраць чужое дрэва, звярнулася чытачка "РГ" з Маладзечна Ганна:**

*– Каля бабулінай хаты на вуліцы Паўночнай расце агромністая старая бяроза. Яна тонкая і з-за ўзросту ўжо трухлявая. Кожны раз, калі вецер узмацняецца, рызыкуе зваліцца на дарогу, дзе ходзяць мінакі, дзеці ў школу, ездзяць машыны, ці на электрычныя правады! Вельмі блізка праходзіць газаправод. Так як дрэва ў прыватным двары, адпаведныя службы пытанне не вырашаюць. Спадзяёмся, што кантралюючыя органы звернуць увагу на нашу небяспечную сітуацыю. Не хочацца дачакацца чарговай трагедыі на вуліцы!*

Намеснік начальніка зялёнапаркавай гаспадаркі УП "Камунальнік" **Таццяна Жаўняровіч** патлумачыла: каб дрэва спілавала іх арганізацыя, неабходны дазвол уласніка ўчастка, на якім яно расце. Калі гаспадар згодны, павінны аплаціць паслугі ўстановы. Цана высечкі дрэва залежыць ад яго вышыні і дыяметра, ад колькасці тэхнікі, якую трэба прыцягнуць да справы.

Калі жыхары лічаць небяспечным дрэва не на прыватнай тэрыторыі, могуць падаць заяву ў зялёнапаркавую гаспадарку. На месца выедзе камісія, якая дасць заключэнне, ці сапраўды дрэва аварыйнае. Калі так – яго ссякуць. Калі не – могуць абрэзаць галінкі.

У сітуацыі, калі суседзі лічаць, што дрэва на чужым участку аварыйнае, супрацоўніца зялёнапаркавай гаспадаркі раіць тактоўна перакана́ць у гэтым уласніка.

У юрыдычным аддзеле УП "Камунальнік" патлумачылі, што суседзі ў любым выпадку могуць звярнуцца па дапамогу да службы. Для гэтага дастаткова падаць пісьмовы зварот, прычым можна як даслаць па пошце ці напісаць адразу ва ўстанове, так і даслаць па электроннай пошце.

На кожны зварот работнікі "Камунальніка" абавязаныя рэагаваць. На месца прыедуць спецыялісты, якія праверачь, ці сапраўды дрэва небяспечнае. Рашэнне аб яго далейшым лёсе будуць прымаць пасля праверкі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТЭМА НУМАРА

# Работнік завода:

## “Кілбаса для нас раскоша, не кажучы пра рэстараны ці кафэ”

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзмітры працуе інжынерна-тэхнічным работнікам на адным з заводаў Маладзечна. І вельмі скардзіцца на міф, што ІТР “нічога не робяць, а заробкі маюць вялікія”.**

У сям’і Дзмітрыя чатыры чалавекі: ён, жонка, дачка-падлетак і дзіця дашкольнага ўзросту. Ёсць яшчэ і кот, які таксама патрабуе расходаў.

Агульны даход сям’і за месяц складаў 1100 рублёў. Каля 900 з іх зарабляла жонка. Нядаўна ёй давялося змяніць працу, з-за чаго даход зменшыўся, адпаведна і сродкі прыйдзецца размяркоўваць па-іншаму.

Як мяркуе мужчына, у першую чаргу зменшаць выдаткі на ежу. Але нават калі разглядаць апошні месяц, калі даход быў адносна прыстойны, эканоміць даводзілася на многім.




### Расходы на праезд

Жонка Дзмітрыя па зменах працуе ў Мінску. Каб дабрацца на працу, прачыналася ў 3 гадзіны ночы, у 4 раніцы ехала на Мінск. Вярталася каля 23 гадзін. У такія дні яна пад’язджала да вакзала на аўтамабілі, а Дзмітры дабіраўся на сваю працу аўтобусам. Калі ў жонкі выхадны, то аўтамабіль браў муж.

Каля 150 рублёў штомесяц сям’я выдаткоўвала на дарогу. Яшчэ 60 рублёў — на паліва для машыны, калі не патрабуюцца траты на рамонт і абслугоўванне.

У 150 рублёў абыходзіцца аплата камунальных плацяжоў, сувязі, інтэрнэта і дзіцячага садка. 300 рублёў сям’я аддае на пагашэнне крэдытаў.

**На жыццё застаецца каля 440 рублёў. На ежу дазваляюць аддаць да 300 рублёў.**

Астатняя рэшта ідзе на набыццё дзіцячых рэчаў, радзей муж і жонка дазваляюць нешта купіць сабе. І то толькі ў выпадках, калі набыць новую рэч проста неабходна.

### Эканоміць умеем абое

– Нават не ідзе гаворка, каб мая жонка траціла грошы на жаночыя радасці ці бяздумнае папаўненне гардэроба, – дзеліцца Дзмітры. – У нашай сям’і эканоміць мы навучыліся – памятаем пра 90-я. Апошні раз у рэстаран ці кафэ хадзілі летам 2013 года.

**Мяркую, калі б мог зарабляць больш, тады і расходы былі б іншыя, а не якасць жыцця.**

Ведаю людзей, якія добрую частку зарплаты трацяць на сябе. Ведаю людзей, якія ўсю зарплату трацяць на сябе. Мне б сумленне на дазволіла траціць на сябе. Усё нясу ў сям’ю.

У магазін па прадукты ходзяць звычайна некалькі разоў на тыдзень, адзін паход абыходзіцца прыблізна ў 30 рублёў. Дадаткова могуць набываць хіба што хлеб і малако. Пры гэтым удаецца клапаціцца, каб у дзіцяці было паўнавартаснае харчаванне, хапала і гародніны, і садавіны.

– Кілбасу дазволіць сабе я не магу, пры ўсёй эканоміі гэта для нас раскоша, – удакладняе Дзмітры. – Знаёмыя дзівяцца, як гэта мы без кілбасы жывём. Ну, часам дзіця просіць якія-небудзь сасіскі, то зрэдку можам набыць, але не са свініны ці ялавічыны, а курыныя. Часцей бяром курыцу, мяса чым таннейшае. Алкаголь у сям’і адсутнічае зусім. Мне вельмі шкада выкідаць на яго грошы. Ну, і не куру, хаця не толькі з-за эканоміі, проста не падабаецца.

Адзіны выпадак, калі муж і жонка могуць дазволіць сабе шампанскае, – хіба што Новы год. Прычым святочны стол хаця і ўпрыгожваюць больш урачыстыя стравы, чым звычайна, яны не выцягваюць з кашалька нашмат больш, чым звыклы паход у магазін.

У сям’і святкуюць дзіцячыя дні нараджэння, дарослыя ж святы даводзіцца ігнараваць.

### Пашанцавала зарабіць у Сочы

Накапіць на будучыню пры такім размеркаванні сродкаў сям’і не выпадае. Апошні раз, калі Дзмітры збіраў грошы, – чатыры гады таму, калі атрымалася накапіць на кватэру. Дзякуючы гэтаму жыллёвае пытанне для сям’і вырашанае.

Аўтамабіль мяняць не плануюць, у ім жа жыць не будзеш. Галоўная мэта, на якую неабходна збіраць грошы, – уладкаванне жылля. Яшчэ год штомесяц трэба выдаткоўваць па 300 рублёў на крэдыты, пасля будзе нашмат лягчэй.

Дзмітры адзначае, што цяперашнія складанасці – не самыя вялікія цяжкасці, з якімі сутыкалася сям’я. Некалькі год таму жылі ў вёсцы. Працаваў па той жа спецыяльнасці, што і цяпер. Мужчына дзяцей амаль не бачыў: калі ішоў на працу, дзеці яшчэ спалі, а калі вяртаўся, таксама ўжо спалі. Жылі ў службовым доме, жонка была ў дэкрэтным адпачынку.

Вельмі дапамагаў свой участак, трымалі гаспадарку: курэй, гусей, перапёлак, трусоў, разводзілі свіней. Спачатку жонка была поўная энтузіязму. Аднак улічваючы, што муж увесь час павінны быў быць на працы, а з гаспадаркай і дзецьмі даводзілася спраўляцца адной, энтузіязму ўсё меншала, улічваючы, што даход сям’і складаў роўна пражытачны мінімум. Праз некалькі год вырашылі, што неабходна нешта мяняць.

У Дзмітрыя былі добрыя часы, калі ён на некаторы час ездзіў на заробкі ў Сочы. Гэта дазволіла назбіраць не адну тысячу долараў, на якія пасля пашчасціла набыць кватэру. У той час адно лета Дзмітры нават звазіў сям’ю ў Сочы. Цяпер пра адпачынак можна толькі марыць.

Рэчы для малодшага дзіцяці стараюцца па магчымасці абменьваць. Калі б не гэта магчымасць, даводзілася б набываць нешта новае ледзь не кожны месяц.

– Калі жылі ў вёсцы, у нас першых з’явіўся інтэрнэт. Дзякуючы яму шукалі танныя прапановы. Нікуды не выедзеш, працаваў амаль кругласутачна. Закупкі праз інтэрнэт вельмі выратавалі ў той час.

Мужчына ганарыцца, што нават у цяжкія перыяды сям’я з усім спраўлялася самастойна, без дапамогі бацькоў і сваякоў. Тым больш, што жывуць яны не бліжэй чым за 100 кіламетраў.

Дзмітры не хавае, што сям’я жыве не ў раскошы, але лічыць, што амаль пры любым даходзе можна адкладаць, толькі розныя сумы. Галоўнае, ведаць, на што, і не складаць рукі.

Зоя ХРУЦКАЯ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.10 | 19.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9711 | **1,9585** |
| Еўра | 2,3308 | **2,3030** |
| Злоты, 10 | 5,4349 | **5,4407** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4042 | **3,4180** |
| Грыўня, 100 | 7,4332 | **7,4108** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **11.10** | **18.10** |
| Еўра | 2.3100/2.3300 | **2.2950/2.3100** |
| Долар ЗША | 1.9620/1.9770 | **1.9550/1.9650** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **11.10** | **18.10** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,18 | **3,18** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 3,85 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Алей “Залатая семачка” 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,40** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,80** |
| Гарбуз, 1 кг | 0,60 | **0,80-1,20** |
| Лімоны, 1 кг | 4,00 | **3,85** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 1,75 | **2,70** |
| Агуркі, 1 кг | 2,65 | **2,95** |
| Перац, 1 кг | 2,50 | **1,95** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Вінаград, 1 кг | 2,95 | **2,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Гранат, 1 кг | 4,45 | **4,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Бананы, 1 кг | 1,79 | **1,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,60 | **4,50** |
| Журавіны, 1 л | - | **3,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,65 | **1,60** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,35** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50-3,00 | **2,80-3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | **7,00-8,00** |

НАВІНЫ

### Бацька ўдарыў сына нажом падчас застолля ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

Сын з бацькам селі за стол, выпівалі. Чым больш пілі, тым больш непаразумення ўзнікала паміж імі.

За апошняй чаркай пачалі спрачацца, з-за чаго бацька схапіўся за нож.

Без роздуму ён ударыў нажом сына ў жывот. Пацярпелага забрала "хуткая дапамога". 42-гадовы мужчына ў бальніцы, паводле судмедэкспертаў, ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

У адносінах да 70-гадовага пенсіянера ўзбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

### На Вілейшчыне павесіўся мужчына

ВІЛЕЙКА

16 кастрычніка ўвечары ў РАУС Вілейкі патэлефанавала жыхарка з Нарочы і паведаміла, што ў двары знайшла павешаным свайго брата.

Па словах **Кацярыны Млечкі**, намесніка начальніка РАУС Вілейкі, сястра і відавочцы на месцы распавялі, што мужчына доўгі час нідзе не працаваў, выпіваў.

Апошнім часам неаднойчы выказваўся пра тое, што не хоча жыць.

Мужчыну было 42 гады.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Віляйчанін скраў скрыню для ахвяраванняў з магазіна ў цэнтры горада

ВІЛЕЙКА

На працягу некалькіх месяцаў неабыякавыя віляйчане збіралі грошы на аднаўленне "Казінага мосціка" праз Вілію. Для гэтага ў некаторых магазінах паставілі спецыяльныя скрыні для ахвяраванняў.

А ўчора ўдзень 50-гадовы непрацуючы віляйчанін скраў з магазіна скрыню з грашыма.

Мужчыну адразу затрымалі. Дапамаглі камеры відэаназірання.

Па словах намесніка начальніка РАУС Вілейкі Кацярыны Млечкі, у скрыні было каля 50 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### У Дзень маці на Вілейшчыне затрымалі чатырох п'яных кіроўцаў

ВІЛЕЙКА

14 кастрычніка на Вілейшчыне затрымалі чатырох п'яных за рулём, распавяла "РГ" намеснік начальніка Вілейскага РАУС Кацярына Млечка.

Трое парушальнікаў, выпіўшы спіртнога, селі за руль уласных легкавых машын.

А чацверты, жыхар Маладзечна, у нецвярозым стане ездзіў на скутары ля вёскі Каранёва на Вілейшчыне, дзе ўчыніў аварыю.

Ён уехаў у аўтамабіль, прыпаркаваны ля дарогі, і пашкодзіў машыну. Сам атрымаў удары і чэрапна-мазгавую траўму.

– Мужчына не меў адпаведных дакументаў на скутар, таму пакарана яго будзе па двух артыкулах: за кіраванне ў нецвярозым стане і за кіраванне скутарам без дакументаў, – адзначыла Кацярына Млечка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### У Маладзечне "Опель-Вектра" наехаў на пешахода

МАЛАДЗЕЧНА

Здарылася гэта 14 кастрычніка каля 19:30.

У Маладзечне 32-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Опель-Вектра" па Вялікім Гасцінцы ў напрамку Смаргоні.

Машына наехала на 37-гадовага пешахода, які пераходзіў праезную частку на забараняльны сігнал святлафора па рэгуляваным пешаходным пераходзе. Пешахода з атрымананымі траўмамі шпіталізавалі, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**





# У Смаргоні застрэліўся лейтэнант

## Магчымая прычына – няшчаснае каханне

СМАРГОНЬ

**Як стала вядома "Нашай Ніве", тры тыдні таму, напрыканцы верасня, у Смаргоні застрэліўся малады лейтэнант-пагранічнік.**



Фота Trend.az

Загінуламу лейтэнанту было 22 гады.

Па інфармацыі "Нашай нівы", хлопцу было 22 гады, ён быў гэтак званым "тылавіком", начальнікам рэчыўнай службы адной з застаў – зусім нядаўна скончыў Гродзенскі ўніверсітэт у інтарэсах Пагранічнага камітэта.

У дзень трагедыі малады лейтэнант знаходзіўся ў навучальным цэнтры Інстытута пагранічнай службы. Ён вярнуўся з нараду, зайшоў за будынак і стрэліў сабе ў галаву.

Прычыны пакуль незразумелыя. Калегі кажуць, што не выключаны варыянт няўдалага кахання на фоне працяглай дэпрэсіі.

Варта адзначыць, што папярэдняе самазабойства пагранічніка – таксама ў Смаргоні, у 2015 годзе – было выклікана сямейнымі прычынамі.

Дададзім, што пагранічныя войскі лічацца элітнымі, там выключаныя дзедаўшчына і паборы, як тое было ў Печах.

**Паводле "Нашай нівы".**

# ДТЗ у Крыніцы: мужчыну збіла "хуткая", калі ён выбег ёй насустрач, каб выратавацца ад ранення нажніцамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніца 18 кастрычніка была вельмі насычаная для 30-гадовага жыхара Крыніцы.**

Пачалося ўсё каля васьмі гадзін раніцы, калі з Маладзечна на тэрміновы выклік выехала "хуткая дапамога".

У 8:20 у Крыніцы "хуткая", як і трэба, ехала з мігалкамі і гукавым сігналам. І тут, справа, насустрач "хуткай дапамозе", выбягае са свайго дома мясцовы 30-гадовы жыхар.

"Хуткая" чапляе яго люстэркам, ад чаго мужчына падае.

Але ў бальніцу ён быў дастаўлены не толькі з нязначнымі ўдарамі твару, але з пранікаючым раненнем груднной клеткі.

Аказалася, што ў той момант, калі "хуткая" спяшалася на выклік, мужчына ў стане алкагольнага ап'янення пасварыўся са сваёй сястрой. Тая ўдарыла яго нажніцамі ў грудзі.

І ў гэты момант мужчына пачуў, што за вокнамі набліжаецца гук "хуткай" дапамогі. Той вырашыў ратавацца ад ранення і паспрабаваў спыніць "хуткую". Аднак правае люстэрка машыны, што ехала на выклік, зачапіла яго за твар.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Наталля ТУР.**

### У Смаргоні 34-гадовы рабочы загінуў, зваліўшыся ў шнэк для падачы камбікорму

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося на Смаргонскім камбінаце хлебапрадуктаў 12 кастрычніка, паведамляе прэс-служба СК.

12 кастрычніка каля 14:00 34-гадовы апаратар камбіната падняўся на ахоўны корпус працуючага шнэка падачы камбікорму. Той не вытрымаў яго вагі і праламаўся.

У выніку работнік трапіў у рухомы механізм. Каб дастаць рабочага, спатрэбілася дапамога супрацоўнікаў МНС і прымяненне спецыяльнага абсталявання. Мужчына памёр у бальніцы.

Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку па факце здарэння.

### У Палачанах машына збіла 13-гадовага хлопчыка

МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ адбылося 12 кастрычніка каля 15 гадзін у Палачанах.

Вучань восьмага класа Палачанскай сярэдняй школы пасля заняткаў вяртаўся дадому. Ішоў па тратуары ў бок Маладзечна. Там усталяваныя знакі абмежавання хуткасці, там ёсць пешаходны пераход, пакладзеная штучная няроўнасць. Але...

З боку Маладзечна ў бок Валожына ехала 29-гадовая жыхарка Палачанаў на аўтамабілі "Фольксваген-Пола".

Пустая вясковая дарога: ні сустрэчных машын, ні пешаходаў...

І раптам за 114 метраў ад пешаходнага перахода і менш за 5 метраў ад школьніка да машыны апошні рэзка пачынае перабягаць дарогу.

Жанчына тут жа тармозіць, але левай часткай тулава хлопец усё ж за машыну чапляецца, ад удару падае на зямлю.

Кіроўца выбегла з машыны, выклікала "хуткую" і пытаецца ў хлопца, як так атрымалася і ці ўсё з ім у парадку?

Хлопчык адказаў:

– Я бачыў, што вы едзеце, я думаў, што паспею перабегчы.

"Хуткая" шпіталізавала хлопчыка ў хірургічнае аддзяленне маладзечанскай дзіцячай бальніцы.

У яго чэрапна-мазгавая траўма, драпіны на твары і каленях, пералом малой галёначнай косці.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Наталля ТУР.**

### Жыхар Вілейшчыны ўлез у чужую машыну і скраў адтуль грошы

ВІЛЕЙКА

34-гадовы жыхар вёскі Язні 10 кастрычніка паставіў сваю машыну ва ўласным двары і не зачыніў багажнік.

Ноччу ў машыну "Пежо" залез яго 35-гадовы непрацуючы аднавясковец і скраў з машыны 250 рублёў.

На мужчыну завялі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж", распавялі ў вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

НАВІНЫ: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# На кірмашы ў гімназіі дзяліліся ідэямі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Кірмаш моладзевых ідэй праводзілі ў гімназіі – каледжы мастацтваў горада Маладзечна 14 кастрычніка.**

На суд усёй гімназічнай супольнасці прадставілі больш за 20 ініцыятыў вучняў 3-10 класаў.

Форум правялі ў рамках тыдняў устойлівага развіцця-2017, якія арганізаваў Дортмундскі адукацыйны цэнтр пры падтрымцы Федэратыўнай Рэспублікі Германія.

**Ужо больш за 20 год цэнтр арганізуе адукацыйныя паездкі, праграмы абмену для школьнікаў, міжкультурныя трэнінгі. Асноўны накірунак яго працы – праекты ў Беларусі.**

Для ўдзелу ў кірмашы на конкурснай аснове адабралі больш за 100 заявак розных устаноў, грамадскіх арганізацый. Сярод выбраных аказалася і маладзечанская гімназія-каледж мастацтваў.

Каманда педагогаў і навучэнцаў прыняла рашэнне заняцца гісторыка-экалагічным даследаваннем ракі Уша Маладзечанскага раёна.

Вучні з 10 "В" плануюць навучыць астатніх вырашаць задачы на экалагічную тэму, тым самым зразумець, як шмат мы трацім рэсурсаў. А ў далейшым плануецца выпуск зборніка задачак.

А калектыў 10 "Б" выступіў за паглыбленае вывучэнне беларускай мовы сярод малодшых класаў. Таксама яны прапанавалі адзін дзень у тыдзень размаўляць выключна на роднай мове.

– Самае вялікае ўражанне на мяне зрабіла ініцыятыва "Ад матэматычных задач да вырашэння экалагічных і эканамічных задач" , бо гэта фарміруе ў дзяцей разуменне праблем. Я лічу, што кірмаш ініцыятыў вельмі цікавы. Яго ладзяць у нас у школе не першы год, і кожны раз мы дабіваемся поспехаў, – распавяла **Уладзіслава Чайкоўская**, член савета гімназістаў.

Таксама гімназія-каледж мастацтваў устанавіла сувязь з іншымі ўстановамі, якія рэалізуюць ініцыятывы ў рамках тыдня ўстойлівага развіцця.

Школа №270 з Санкт-Пецярбурга прапанавала праект "Нашчадкі традыцый". Запланавалі правесці экскурсію па месцах баявой славы, даследаваць флору і фаўну тэрыторыі, якія ахоўвае дзяржава, гістарычных падзей, звязаных з тэрыторыяй. А вучні гімназіі №2 горада Ваўкавыска хочуць стварыць экаклас – клас пад адкрытым небам.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ,**
**навучэнка гімназіі-каледжа мастацтваў.**

# Дзённік мамы першакласніцы:
## як сярод аднолькавых 30 маек адшукаць сваю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Фразу "не хачу ў школу" мы чуем раніцай у першыя дзве хвіліны пасля прачынання Варвары ў сем гадзін.

Калі ж расплюшчыліся ўжо абодва вочкі і знятая піжама, першакласніца пачынае глядзець на жыццё больш пазітыўна, бо жаданне ісці ў школу прачынаецца разам з ёй.

Першыя два вучэбныя тыдні бацькоў яшчэ пускалі ў школу разам з першакласнікамі, каб дапамагчы дзецям дайсці да класа, пры патрэбе пагутарыць з настаўніцай, скласці ў гардэробе пакеты.

Бо пакетаў-пакетаў там у нас! Лічыце. У першым – спартыўны касцюм і кеды. У другім – гімнастычны купальнік і балеткі. У трэцім – форма ў прадлёнку. У чацвертым – майка і шкарпэткі для сну. Часам з'яўляецца яшчэ пяты пакет. У ім мы прыносім чыстую пасцельную бялізну.

І гэта ўсё "багацце" толькі адной першакласніцы. А ўявіце, што ў гардэробе іх 30. Таму, каб адшукаць сваю белую спартыўную майку сярод аднолькавых 30, усе матулі мусілі вывучыць ініцыялы дзіцяці на вопратцы.

Забаўляюць мілыя ранішнія дыялогі. Скрозь ўсеагульны гул у 30 галасоў чую, як хтосьці з першакласнікаў дакрычацца да настаўніцы:

– Алена Мікалаеўна! А Нона шапку ў іншую раздзявалку перакінула.

– Нона, хто табе дазволіў кідаць чужую шапку? – разбіраецца настаўніца.

– Дык я ж не чужую, я сваю, – апраўдваецца дзяўчынка.

Пару апошніх тыдняў прайшлі пад кодавам словам "макулатура". Вучням нашага класа аб'явілі, што кожны павінны прынесці не менш за пяць кілаграмаў. Мы падключылі да справы дзядуляў з бабулямі, пазбіралі непатрэбную паперу ў сваёй кватэры і здалі амаль сорак кілаграмаў.

Гордая Варвара ўжо атрымала падзяку ў дзённік, а цяпер чакае яшчэ і падарунка. Таму, хто здасць больш за ўсіх, абяцалі.

У першакласнікаў ужо з'явіліся дзённікі, а ў бацькоў адпаведна – новыя клопаты. Цяпер на кожны новы тыдзень таты і мамы пішуць друкаванымі літарамі расклад.

Адзнакі таксама вельмі своеасаблівыя. Гэта



Фота забяспечанае Аляксандрай ІВАШАНКАЙ.

**Бясклапотныя дні ў дзіцячым садку Варвара (справа) прыгадала на дні нараджэння ў садаўскай сяброўкі Каці.**

маленькія налепкі-смайлікі: ад вельмі вясёлага да вельмі сумнага. Тварык з самай шырокай усмешкай – гэта "дзясятка", з крыху вузейшай – "дзявятка". І гэтак – па змяншэнні шырыні ўсмешкі.

І пакуль, па пераканаттях Варвары, яна вучыцца куды лепш за сяс-тру-шасцікласніцу. У яе ўжо тры дзясяткі і ніводнай дзявяткі.

З паводзінамі таксама не ўсё проста. Жоўты квадрацік – выдатныя, чырвоны – больш-менш, фіялетавы – кепскія, чорны – зусім кепскія. Самае цікавае, што гэту складаную навуку з адзнакамі за паводзіны спасціглі яшчэ не ўсе бацькі. Час ад часу ў групе ў вайберы з'яўляюцца пытанні, што значыць, напрыклад, фіялетавы квадрат.

Але як бы ў школе ні было добра, сувязі з дзіцячага садка таксама не адпускаюць. На пачатку кастрычніка Варвара з сяброўкамі з сада хадзіла віншаваць з Днём настаўніка любую выхавальніцу **Наталлю Мікалаеўну**.

Быў і прыгожы букет, і падарунак, і нават незапланаваная песня.

Яшчэ адно "садаўскае" рэха дагнала нас у мінулыя выхадныя. Сяброўка **Каця** з дзіцячага садка запрасіла на дзень нараджэння. Хапіла і ласункаў, і забаў.

Азмрочвала выдатны настрой толькі тое, што дома чакае пропісь, а ў ёй недапісаны радок.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Мінску адкрылі нямецкую выставу

У пятніцу, 6 кастрычніка, у Нацыянальным мастацкім музеі Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі спадар **Петэр Дэтмар** урачыста адкрыў выставу "Эрнст Барлах – Кетэ Кольвіц. Пераадольваючы існаванне".

Творы двух знакамітых нямецкіх мастакоў-экспрэсіяністаў – **Эрнста Барлаха** (1870-1938) і **Кетэ Кольвіц** (1867-1945) – упершыню прадэманструюць у Беларусі. На выставе прадстаўленыя больш за 200 работ, якія адлюстроўваюць асноўныя этапы творчага шляху абодвух мастакоў больш чым за 50 годзе іх творчасці.

Выстава "Эрнст Барлах – Кетэ Кольвіц. Пераадольваючы існаванне" ўяўляе сабой самую буйную і важную нямецкую выставу ў Рэспубліцы Беларусь з моманту набыцця краінай незалежнасці.

Пасол Дэтмар, пад патранажам якога праводзяць выставу, падкрэсліў на цырымоніі адкрыцця яе высокае сімвалічнае значэнне:

– Выстава з'яўляецца праектам-маяком нашага двухбаковага культурнага супрацоўніцтва і культурнай кульмінацыяй года, у якім мы адзначаем 25-гадовы юбілей з моманту аднаўлення дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі.

Наведаць выставу можна да 3 снежня ў Нацыянальным мастацкім музеі па адрасе: **Мінск, вуліца Леніна, 20.**

**Аддзел інфармацыі.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

• ВАЗ-2104, 1999 г.в., 1,6 бензін, 600 руб. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• ФВ-Гольф 3, 1994 г.в., 1,9д. Т. (8-029) 7674127, (8-044) 7676327.

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Ніва-2121, 1988 г.в.. Т. вэлком (8-044) 4703638.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

**КУПЛЮ**

• Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *



• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Зубчастую рэйку да ГАЗ-66, рулявы механізм да КРАЗ, шыны, дыскі. Т. (8-029) 8588959.

**ІНШАЕ**

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

**ПАСЛУГІ**

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д. 9, кв. 56, 5 паверх, агульная плошча 27,6, жылая 16,9, цана дагаворная. Т. (8-01771) 27990, (8-029) 2534684 Ганна.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агул. плошча 21,5/12,2/5,2. Торг. Т. (8-0176) 778970, (8-029) 7558660.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля. Т. (8-033) 6626858.*



• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 32194, (8-033) 6029250.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, д.2, кв. 15. Агульная плошча 31,5 кв.м, жылая – 17,5 кв.м. Агарод 2 соткі, вокны ПВХ, склеп. Т. Вэлком 1261673.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на першым паверсе, плошча 31,4/42,7, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 6188711.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з новым еўрарамонтам, 2 паверх. Нацяжная столь, ламінат, шклопакеты, кухня з тэхнікай, італьянская плітка. Замененыя праводка і трубы. Т. (8-029) 6958714.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*

• 3-пакаёвая кватэра на 2 паверсе ў Мядзеле. Газавае ацяпленне, пластыкавыя вокны, нацяжная столь, рамонт у ванным пакоі, бойлер, душавая кабіна. Т. МТС (8-029) 2241522.

• Гараж ГБК-Ізбіна (каля АЗС), 4200 рублёў. Т. (8-029) 2375721.*

• Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак. Нядорага. Т. (8-0290 6691789.*

• Дом у в. Людвінова. Т. (8-033) 6698067.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7039162.*

• Домік у вёсцы Снежкава Вілейскага раёна. Ёсць трактар і трохі недабудаваны гараж. Побач возера. Т. (8-01771) 26453, (8-033) 3309118.

• Садовы ўчастак у кааператыве "Брыльянт" у вёсцы Ласі, ад чыгуначнага прыпынку 1400 м. Блочны домік, хлеўчык (сарай), агарод, ягаднік – за невялікую цану. Т. (8-0176) 551631, (8-033) 6407558.*



**ЗДАМ**

• Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*



# ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

• Вядучая на свята. Т. (8-033) 6228417.

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

**ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА**

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

# Маладзечанскі гурт "Гармонія" юбілей адзначыць канцэртам

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета вакальнаму гурту "Гармонія" спаўняецца пяць гадоў. Пра тое, як ён нараджаўся, распавёў кіраўнік **Андрэй Шабовіч**.

Па словах Андрэя, усё пачыналася ў 2008 годзе, калі загадчыца культурна-масавага сектара Дома культуры чыгуначнікаў **Валянціна Трусій** шукала сярод шараговых работнікаў чыгункі ўдзельнікаў для музычна-танцавальнага конкурсу "Цудоўная пяцёрка".

Тады ў конкурсе ўдзельнічалі пяць каманд. Яны пераконвалі журы, што менавіта яны маюць права называцца самым музычным падраздзяленнем Маладзечанскага чыгуначнага вузла.

Конкурс скончыўся, а самых актыўных і здольных пачалі запрашаць у якасці салістаў на розныя святы, якія ў той час праводзілі ў Доме культуры чыгуначнікаў.

– Гэта была звычайная самадзейнасць, – прыгадвае Андрэй. – На чыгунцы сфарміраваўся нейкі актыў, які выступаў на ўсіх мерапрыемствах. Кожны сам абіраў сабе песню, якая падабалася, і спяваў.

На думку Андрэя, магчыма, так усё і працягвалася б, калі б не лёсавызначальны для гурта 2012 год. Тады Беларуская чыгунка якраз святкавала сваё 150-годдзе, і ў гонар гэтай падзеі ў Мінску ладзілі вялікі канцэрт.

Каб адабраць вакалістаў для гэтага мерапрыемства, у Маладзечна прыехалі прадстаўнікі культурна-спартыўнага цэнтра Беларускай чыгункі. Кіраўнік гурта прыгадвае:

– Гэта быў кастынг. Мы па чарзе выходзілі на сцэну і спявалі. Але тых, хто спявае адзін, было шмат. Таму нам прапанавалі аб'яднацца і выступіць у якасці ўдзельнікаў мужчынскага вакальнага гурта. Абнадзеілі, што шанцаў на поспех будзе значна больш.

Так нарадзіўся вакальны гурт "Гармонія". Назва прыйшла неяк сама сабой. Андрэй цяпер не памятае, хто яе прапанаваў.

Першая песня, якую чыгуначнікі выканалі разам, была тэматычнай. Яна называлася "Жыццё маё – чыгунка".

Там жа група атрымала свой першы дыплом.

Напачатку гурт "Гармонія" складаўся з сямі чалавек. Ніхто з гэтых сямі нават не меркаваў, што праз нейкі час гурт, які выступаў выключна на мерапрыемствах, арганізаваных мясцовым Домам культуры чыгуначнікаў, вырасце да таго, што будзе гастраляваць па ўсёй Беларусі.

Аднак былі і цяжкасці. Склад часта мяняўся, людзі прыходзілі і сыходзілі, бо мянялі працу, месца жыхарства. У выніку засталіся чатыры чалавекі.


Фота з архіва гурта "Гармонія".

Цяпер у гурце "Гармонія" чатыры спевакі.

– У нас усіх акрамя гурта ёсць асноўная праца. І самае складанае – гэта сумяшчаць яе з рэпетыцыямі, бо графікі ўдзельнікаў не заўсёды супадаюць, – дзеліцца Андрэй.

Цяпер мужчыны збіраюцца на рэпетыцыі тры разы на тыдзень. Тут яны падбіраюць рэпертуар, абмяркоўваюць будучыя выступленні, працуюць з голасам. Дапамагае ім у гэтым педагог па вакале **Вольга Кохан**.

Новы этап развіцця гурта пачаўся пасля выступлення на канцэрце, прысвечаным 8 Сакавіка. Дзякуючы яму спевакоў падтрымала дырэктар Палаца культуры **Святлана Сарока**.

Яна дапамагла салістам пашыць канцэртныя касцюмы, знайсці новыя пляцоўкі для выступленняў. Сёлета ў ліпені на сцэне маладзечанскага амфітэатра адбыўся іх першы сольны канцэрт.

Уласны юбілей вакальны гурт "Гармонія" адзначыць на сцэне: 27 кастрычніка ў раённым Доме культуры (былым Доме культуры чыгуначнікаў) яны зладзяць выступленне.

У гэты вечар на адной сцэне збяруцца ўсе вакалісты, якія ў розныя часы былі ўдзельнікамі гурта.

**Глеб РУДЗЬКО,**
**навучэнец школы журналістыкі "Маладзік".**

# Ці расказалі вы дзецям, як яны самастойна могуць зарабіць планшэт?

Калі ў вашай сям'і ёсць школьнікі, якім споўнілася 12 год, раскажыце ім пра нашу акцыю "Дзясятачка", у якой кожны вучань можа атрымаць магчымасць перамагчы і атрымаць планшэт.

А можа, ваш вучань ці вучаніца любяць піцу? Тады яны могуць выйграць паход у піцэрыю ўсім класам!

Дасылайце ўжо цяпер, не чакайце! Лепш за ўсё дасылаць бланкі штотыдзень. Гэта дасць вам магчымасць атрымаць падарункі па выніках чвэрці. Магчыма, мы вырашым узнагародзіць вас за актыўнасць і завітаем у госці ў ваш клас. А за актыўнасць узнагародзім тых, хто не чакаў і адразу дасылаў бланкі.

## Што трэба для ўдзелу ў акцыі:

1.) Удзельнічаць можа вучань любой са школ ці гімназій Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Мядзельскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якому на момант атрымання адзнакі споўнілася 12 гадоў, ці яго бацькі.

2.) Зарабіць "9" ці "10" па любым прадмеце ад 1 верасня 2017 года да 16 мая 2018.

3.) Запоўніць бланк удзельніка. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты. У адным бланку можа стаяць толькі адна адзнака. Калі вы хочаце даслаць на конкурс пяць адзнак, вам неабходна пяць бланкаў, кожны з якіх будзе выразаны з газеты.

4.) Дасылайце бланкі па пошце ці прыносьце ў рэдакцыю. На канверце зрабіце пазнаку "10". Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ "Тройка", 5-ы паверх).

## Прызы

Калі вы выканалі ўсе чатыры пункты, то сталі ўдзельнікам акцыі. А значыць, становіцеся адным з прэтэндэнтаў на падарункі для пераможцаў акцыі.

Той, хто дашле найбольшую колькасць бланкаў, атрымае ў падарунак планшэт. Самы актыўны клас, вучні якога даслалі максімальную колькасць бланкаў, выйграюць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Таксама прадугледжаны падарункі для лідараў па выніках чвэрці.

Калі вы хацелі б, каб прадстаўнікі рэдакцыі прыехалі і ў вашу школу распавесці пра акцыю, калі ласка, запрашайце праз пошту **regionnews@rh.by.**

**Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце: www.rh.by/by/457/50/18289/**

**Аддзел інфармацыі.**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№42)**

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
Школа____________________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрымана адзнака ______________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка __________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка______________________

# Не губляй ніводнага дня і атрымай лічбавую фотарамку і іншыя падарункі

**Шаноўныя чытачы, нагадваем вам пра нашу акцыю “Не губляй ніводнага дня”.**

Да 1 лістапада дасылайце на адрас regionnews@rh.by фотаздымкі з кароткім апісаннем і звесткамі пра сябе. Большасць з дасланых фотаздымкаў вы зможаце ўбачыць на старонках газеты.

Але гэта не асноўная ўзнагарода.

Пераможцаў акцыі чакаюць прызы. Намінацыя “Прыз глядацкіх сімпатый” – вялікая каробка цукерак. Намінацыя “Выбар рэдакцыі” – лічбавая фотарамка і размяшчэнне на нашым фірменным календары.

Асобна ўзнагародзім аднаго з аўтараў фотаздымка, на якім будзе абыграная тэма “Рэгіянальнай газеты”. Падарункам стане фірменны набор сувеніраў ад нас.

6 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 13 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

А ў гэтым нумары прапануем вам фотаздымак, які даслаў **Сцяпан Коршук** з апісаннем:

“Гісторыя гэтага фотаздымка простая: у адзін дзень на пачатку восені мы надзелі вышыванку і звярнуліся да знаёмага фатографа, каб зрабіць фотасесію. І вось так атрымаліся цудоўныя кадры, а сакрэт просты: у гэты восеньскі дзень сабраліся людзі, якія любяць Беларусь.”



9-гадовая Стафанія Коршук з Маладзечна.

# Пахваліся сваімі здольнасцямі і атрымай каштоўныя прызы

**“Рэгіянальная газета” пачынае конкурс “Супергаспадар”.**

На конкурс, які мы абвясцілі тыдзень таму, ужо пачалі прыходзіць першыя работы. Каб заахвоціць таго, хто яшчэ вагаецца пасылаць фота ці не, мы друкуем працу першай удзельніцы.

**Валянціна Бажэлка** з Маладзечна падчас дэкрэтнага адпачынку навучылася вязаць.

А мы нагадваем: калі вы сабралі самы вялікі ўраджай або пабудавалі ўнукам арэлі, вышылі абрус ці ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі, зрабілі ўласнымі рукамі трактар, лепш за іншых умееце іграць на самаробнай дудцы, шыеце абноўкі хамякам і коцікам ці сабралі багаты ўраджай грыбоў і нарабілі рэкордную колькасць закатак, – наш конкурс для вас.

Раскажыце пра гэта.



**Вязаная сукеначка і вязаная цацка – першыя спробы чытачкі Валянціны Бажэлкі ў творчасці. Дачушцы Валянціны такія ўборы і цацкі падабаюцца.**

**Дасылайце на нашу пошту regionnews@ rh.by свае лепшыя фотаздымкі. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі тым, што выклікае ў вас пачуццё гонару, а ў суседзяў пачуццё добрай зайздрасці.**

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак садовыя арэлі. Таму, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі ў падарунак наборы агародніка. А ўсе ўдзельнікі акцыі, незалежна ад вынікаў, атрымаюць у падарунак наборы насення як гародніны, так і кветак.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы да 13 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 17 да 27 лістапада. А 1 снежня абвесцім вынікі акцыі на старонках газеты.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце “Супергаспадар”.

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**Калектыў “РГ”.**

# Мама сямігадовай Сашы: “Мы марым хадзіць спакойна на прагулкі і радавацца разам з усімі”

МЯДЗЕЛ

**Наша сям’я зноў звяртаецца да чытачоў “Рэгіянальнай газеты” па дапамогу. Нашай дачцэ, сямігадовай Сашы з курортнага пасёлка Нарач (Купа), неабходна прайсці два курсы аднаўленчага лячэння ў цэнтры “Алінек” у Варшаве.**

Першы – ад 27 лістапада да 15 снежня, а другі – ад 12 да 23 лютага наступнага года. Задатак у 400 еўра мы ўжо выслалі ў “Алінек”.

Саша вельмі баіцца гучных гукаў. На вуліцы з ёй вельмі цяжка: баіцца шуму машын, у буйных крамах – істэрыка. Мы не можам знаходзіцца ні на адным мерапрыемстве для дзетак. Усе святы у нас не з дзецьмі, а ў калідоры. Мы марым хадзіць спакойна на прагулкі, удзельнічаць у мерапрыемствах для дзетак, радавацца разам з усімі. Але пакуль гэта немагчыма. Што ні рабілі, пакуль нічога не змянілася. Але нам параілі прайсці курсы “Тамаціс” у цэнтры “Алінек”.

У кошт уваходзіць курс “Тамаціса”, а таксама ЛФК, нейралагапед, тэрапія рук. Першы курс каштуе 10175 злотых (2500 еўра), другі – 5300 злотых (1250 еўра). Два курсы каштуюць 3750 еўра: гэта без праезду, жылля і віз. Яшчэ плюс 800 еўра на артэзы на ножкі для Сашкі. У іх ножкі стаяць правільна, што спрыяе належнай хадзе.

На дадзены момант сабрана 1370 еўра. Неабходную суму трэба сабраць да канца кастрычніка, за месяц да рэабілітацыі. І яшчэ ў іх такая ўмова: калі мы не зможам сабраць неабходную суму, то трэба забраць аванс загадзя. Пазней вернуць толькі палову, а за два тыдні ўвогуле не вернуць…

Цяпер нам цяжка назапасіць такую суму, таму вельмі просім пачуць наш крык аб дапамозе. Дачцэ неабходная гэтая рэабілітацыя. Першы курс лячэння ў рэабілітацыйным цэнтры “Алінек” мы прайшлі ў чэрвені. Нам спадабаліся ўсе заняткі, якія нада дапамаглі ў развіцці Сашы. Цэнтр “Алінек” паказаў нам, што яна ўсё можа, толькі да яе трэба знайсці правільны індывідуальны падыход. І яны яго знайшлі. Цяпер я гатовая на ўсё, каб зрабіць сваю дачку больш здаровай. І ў нас гэта павінна атрымацца!

Таму просім вас адгукнуцца на нашу просьбу аб дапамозе. Без вашай дапамогі нам адным не справіцца. Загадзя вялікі дзякуй усім за падтрымку і добрыя сэрцы, за тое, што вы даяце велізарны шанец дзеткам прайсці лячэнне і стаць на крок бліжэй да выздараўлення.



Фота забяспечанае Наталляй МАЦКЕВІЧ.

Саша Якушэнка.

**Наталля МАЦКЕВІЧ,**
**мама Сашы.**
**к. п. Нарач.**

**Даведка “РГ”.** Дыягназ у Сашы: ДЦП, змешаная форма з выяўленымі рухальнымі парушэннямі трэцяй ступені цяжкасці, затрымка маўленчага развіцця. Скаліёз пазваночніка, два падвывіхі тазасцегнавых суставаў.

## Як можна дапамагчы

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў цэнтры банкаўскіх паслуг №619 ААТ “ААБ “Беларусбанк” **г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4,** УНП 600198997 МФО 153001769

БИК

AKBBBY21601

– **беларускія рублі** – транзітны рахунак № BY20AKBB38193821903436100000 на дабрачынны рахунак №BY96 AKBB 3134 0000 0509 5612 0619BYN у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы

– **расійскія рублі** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак №BY07 AKBB 3134 0000 0508 8612 0619RUB у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы

– **долары ЗША** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак №BY67 AKBB 3134 0000 0508 4612 0619USD у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы

– **Еўра** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак

№BY36 AKBB 3134 0000 0509 9612 0619EUR у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Прызначэнне плацяжу:** Мацкевіч Наталлі Рыгораўне на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны.

**Нумар МТС для папаўнення балансу: +37529 256-75-32** – зарэгістраваны на Наталлю Мацкевіч (маму Сашы)

**Адрас для паштовага пераводу:** 222395, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к.п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д.33. кв.32, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне. Прызначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны, згодна з выпісаным эпікрызам №21777 / 573 і пасведчаннем серыі 09 №0431282.

**Кантакты: 8 (01797) 25-1-92** – дамашні тэлефон, **+37529 256-75-32** – Наталля, мама Сашы, **+37533 319-93-18** Павел, бацька Сашы.

Картка БЕЛАРУСБАНКА 9112 0001 6091 8450 тэрмін дзеяння да 12.21

Картка БПС-Ашчадбанка 5435 5310 2328 2229 тэрмін дзеяння да 08.20

Картка Тэхнабанка 4142 9730 3174 1571 да 03.19

PALPal: anelamackiewich@gmail.com

**WEBMONEY:**

E337275010761 – еўра;

Z327686281157 – долары

R194764232739 – расійскія рублі;

B411825951365 – беларускія рублі.

# Юрась Церабун: Не маю права забываць сваіх настаўнікаў

СМАРГОНЬ

**Юрась Церабун напісаў успаміны пра сваіх настаўнікаў.**

На сваё ж уласнае пытанне, для чаго гэта трэба праз столькі гадоў, адказвае: “Імёнаў маіх настаўнікаў няма нават у кнізе “Памяць” Смаргонскага раёна, а гэта настолькі таленавітыя, вядомыя асобы, яны столькі мне далі, што я проста не маю права забываць пра іх”.

Гэта вялікая асалода чалавеку сталага ўзросту ўзгадаць, як у школу раніцой ідуць сённяшнія дзеткі. Якія яны прыгожыя і мілыя. Міжволі ўзгадваецца сваё дзяцінства ў Смаргоні. Мая маці вывучыла са мной усе літары і ў шэсць гадоў я мог чытаць газету.

Маці вырашыла аддаць мяне ў школу. Але ў аддзеле народнай адукацыі адказалі: “Женщина, мы не можем вам такое разрешить. Пусть ребёнок гуляет, а в школу пойдет в свое время”.

Гэту гутарку пачуў настаўнік малодшых класаў **Мечыслаў Станіслававіч Бароўскі**. Ён прапанаваў штодня мяне прыводзіць да яго ў клас.

Я слухаў, як ідзе ўрок, а сам выконваў свае заданні. Мечыслаў Станіслававіч вёў усе прадметы: чыстапісанне, матэматыку, маляванне і нават спевы. Потым я вучыўся ў розных настаўнікаў, але сяброўства з Мечыславам Станіслававічам не губляў.

Калі перайшоў у старэйшыя класы, заняткі сталі весці прадметнікі. Кожны з іх пакінуў след у маім жыцці і фарміраваў мяне як грамадзяніна, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны і творчага чалавека.

**Яўген Максімавіч Яцэвіч.** Вёў у нас беларускую мову і літаратуру. Ён валодаў чысцюткай беларускай мовай, здавалася, што па-руску ён і не ўмее гаварыць. Тое, што я сёння пішу толькі па-беларуску і размаўляю толькі на ёй, – заслуга Яўгена Максімавіча Яцэвіча.

Яго жонка, **Тамара Паўлаўна**, выкладала нямецкую мову. Любіла яна мяне як мастака. Намалюю я прыгожую насценную газету, а яна мне ў дзённік малюе яшчэ прыгажэйшую пяцёрку. Не, каб сказала: “Вось табе пяць слоў за гэта. Вывучы”. Калі апынуўся за мяжой, ох, як яны мне спатрэбіліся б.

**Вольга Восіпаўна Чарнова.** Яна выкладала рускую літаратуру. Незвычайна строгая, але вельмі мілая. Яна нагадвала нам свецкую даму з класічных літаратурных твораў.

Аднойчы яна нам паказала свой характар. Некалькі вучняў, у тым ліку і я, сарвалі ёй урок. Яна ўстала з-за стала і спакойным голасам сказала:

– Тэма такая. Шукайце самі. На наступным уроку я спытаю ў вас першымі. І спакойна пакінула клас.

Вось гэта былі клопаты. Інтэрнэту не было, а такое ў адзінай у горадзе бібліятэцы было не так проста знайсці. Усё ж такі знайшлі многа цікавага па тэме, але за свае паводзіны сорамна па сённяшні дзень.

Гісторык **Васіль Рыгоравіч Навумаў**, удзельнік вайны. Аднойчы на ўроку ён сказаў: “Раскажыце легенду пра тое, як гусі ўратавалі Рым. Хто ведае, падыміце руку”. Мы ўсе сядзім, уціснуўшы галовы ў плечы.

Нарэшце сялянскі хлопец з вёскі Хадакі па прозвішчы Яблонскі, падняў руку. Ён так прыгожа распавёў пра тое, як варожыя воіны ноччу падымаліся па сценах крэпасці, як варта спала. І як гусі, пачуўшы нядобрае, дружна загагаталі. Вось вам і Яблонскі з глухіх Хадакоў.

Фізік і матэматык **Леанід Раздзішэўскі.** Нялёгкі быў яго жыццёвы шлях. Перажыў вайну, быў у нямецкім палоне. Для мяне Леанід Аляксандравіч быў геній. Яго ўрокі выходзілі далёка за межы тэмы. Тут мы пачулі пра тое, чаму ляціць самалёт, хоць ён вельмі цяжкі. Тады яшчэ пра космас мы нічога не ведалі, але пра зоркі, магнітнае поле зямлі, сілу ветру шмат чаго чулі ад любімага настаўніка. Маці казала на мае першыя спробы авіямадэлявання:

– Нешта твой самалёт ляцець не хоча. Пусціш, а ён усё ў плот стукаецца”.

Затое потым маю фюзеляжную мадэль планера прывезлі мне ў Смаргонь з-пад Крэва, во як далёка заляцела.

На мадэлях было прынята пісаць адрас авіямадэліста.

**Юрась ЦЕРАБУН.**

**Працяг будзе.**



1929 год. Малачарня ў Тупальшчыне. Агульны выгляд. Ілюстрацыя забяспечаная Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

# Першая на Віленшчыне малачарня ў Тупальшчыне

## Як мясцовыя гаспадары развілі квітнеючы бізнес, якія пасля разрабавалі бандыты

СМАРГОНЬ

**Пасля ваеннага ліхалецця Першай сусветнай вайны насельніцтва рэгіёна паступова пачало аднаўляць сваю разбураную гаспадарку, адбудоўваць паселішчы, апрацоўваць закінутыя землі. Каб хутчэй узняць свой дабрабыт, атрымаць стабільную выгаду ад жывёлагадоўлі, быў заснаваны малочны кааператыў у Тупальшчыне, побач з Жодзішкамі.**

На працягу некалькіх гадоў міжваеннага часу мінулага стагоддзя тупальшчынская малачарня ўтрымлівала першынство па сваіх паказчыках на ўсёй Віленшчыне. І гэты факт варты нашай удзячнай памяці. У той час, а менавіта ў 1925 годзе, першая малачарня (у нашым рэгіёне часцей казалі "млячарня" – рэд.) на тэрыторыі ўсёй Віленскай зямлі была арганізаваная на Смаргоншчыне, паблізу чыгуначнай станцыі Солы.

### Някепскія выплаты прыцягнулі пастаўшчыкоў

Жыццядзейсны і энергічны сельскагаспадарчы гуртok у Палянах, які раней заснаваў касу Стэфчыка ў Нясташках, падымаў пытанне аб арганізацыі малачарні ў Тупальшчыне ў 1925 годзе. Але толькі 18 лютага 1926 года праходзіць першы арганізацыйны сход. І ад 8 мая малачарня распачынае сваю дзейнасць.

Першапачаткова яна складалася з 24 пастаўшчыкоў малака, якія трымалі ў сваіх гаспадарках 109 кароў. Першыя неблагія выплаты наяўнымі грашыма за здадзеную сыравіну адразу прыцягваюць у кааператыў шмат іншых гаспадароў наваколля, таму на канец першага года існавання колькасны склад пашырыўся да 87 пастаўшчыкоў.

**У далейшым лік сяброў прадпрыемства няззменна павялічваецца, у 1928 годзе іх было ўжо 244 чалавекі, а ў 1937 годзе налічвалася больш за 700 сяброў.**

### 10 частка масла на віленскіх рынках – з Тупальшчыны

Растуць таксама аб'ёмы перапрацаванага малака. У чэрвені 1927 года ў малачарню было пастаўлена амаль 69 тысяч літраў малака, што выводзіла яе сярод іншых прадпрыемстваў Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў на першае месца па аб'ёме здадзенай сыравіны. У гэты ж месяц з Тупальшчыны было пастаўлена ў Вільню 2 880 кілаграмаў масла, што ў сваю чаргу склала дзясятую частку ад пастаўленага ўсімі малочнымі кааператывамі масла на віленскія рынкі.

Перад Другой сусветнай вайной кааператыў перапрацоўваў штодзённа пяць тысяч літраў малака, пры наяўнасці начыння, якое магло падвоіць гэту лічбу. Адпаведна, гаспадары летам маглі атрымаць штомесяц за здадзенае малако ад адной каровы ад 25 да 40 злотых, а зімой і таго больш. У некаторых выпадках гэта сума была значна вышэйшая.

Гаспадару **Юльяну Жылку** з Тупальшчыны за адзін з летніх месяцаў была выплачана 122 злотыя. Гэтыя грошы давалі магчымасць мясцоваму земляробу пераадолець беднату, адчуць сябе гаспадаром, развіваць уласную гаспадарку, набываць жывёлу і пашыраць уласнае пагалоўе кароў. Для прыкладу, набытая за 350 злотых панам **Яноўскім** з Палянаў карова акупілася за пяць месяцаў толькі з-за паставак малака.

### Якія цэны былі ў 1930 годзе

Каб арыентавацца ў тагачасных грашовых рэаліях, прывяду цэны на віленскіх рынках за верасень 1930 года.

**У сярэднім 1 кілаграм свініны каштаваў каля 3 злотых, сала – 4 злотыя, такая ж самая была цана на салёнае масла, 1 літр смятаны ацэньваўся ў 2 злотыя, цукар – 1 злоты 70 грошаў, натуральная кава – да 12 злотых, чай (не блытаць з гарбатай – напоем з травяных збораў) каштаваў ад 18 да 30 злотых.**

У гэты час за 1 долар давалі 8 злотых 88 грошаў.

Што цікава, у канцы 1930-х гадоў цэны на ўсе харчовыя прадукты патаннелі, прычым на мясныя вырабы больш чым напалову і нязначна на малочныя.

### Крэдыты і рухавік унутранага згарання

Пры адкрыцці малачарні ў Тупальшчыне быў скарыстаны кароткатэрміновы трохмесячны крэдыт, які выдзеліў Віленскі саюз малочных кааператываў. За яго набылі цэнтрыфугу "Балтыка" і маслабойку. Атрымаўшы другі крэдыт ад дзяржаўнага сельскагаспадарчага банка кіраўніцтва накіроўвае яго на пакупку збаноў, іншага неабходнага начыння.

У 1928 годзе праўленне малачарні ў складзе старшыні кааператыва **Ул. Бакшанскага**, сяброў праўлення **Ф. Жылкі**, **Я. Блажко** і тагачаснага кіраўніка малачарні **Я. Ратайчака** рэалізуе праект па выкарыстанні рухавіка ўнутранага згарання ў якасці асноўнай рухаючай сілы малачарні. Набыты рухавік у чатыры конскія сілы вызваліў двух рабочых, якія працавалі кожны дзень па 20 гадзін у дзве змены і ў хуткім часе павінны быў акупіцца.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**заканчэнне будзе.**

● КАЛЯНДАР

**21 КАСТРЫЧНІКА**

**1878.** Нарадзіўся **Уладзімір Пічэта**, гісторык-славіст, першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**1935.** Нарадзіўся **Юрка Геніюш**, пісьменнік і публіцыст.

**23 КАСТРЫЧНІКА**

**1937.** У Мінску расстраляны **Фларыян Ждановіч**, акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч.

**1823.** Нарадзіўся **Адам Плуг** (сапр. Антон Пяткевіч), беларускі і польскі пісьменнік, журналіст.

**1981.** Памёр **Якуб Міско**, пісьменнік, журналіст. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**24 КАСТРЫЧНІКА**

**1795.** Адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай.

**25 КАСТРЫЧНІКА**

**1927.** 90 гадоў з дня нараджэння **Галіны Сідзельнікавай**, дыктара радыё, заслужанай артысткі Беларусі.

**1589.** Нарадзіўся **Ян Станіслаў Сапега**, сын Льва Сапегі, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**1991.** У Нью-Ёрку памёр **Антось Галіна** (сапр. Міхась Міцкевіч, нар. 13 ліпеня 1897), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША, брат Якуба Коласа. Да вайны працаваў дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне, падчас нямецкай акупацыі – інспектарам беларускіх школ на Стоўбцаўшчыне. Разумеючы, што з прыходам Саветаў ён можа трапіць у лагер, з'ехаў у 1944-м на Захад і больш ніколі не бачыўся з братам.

**26 КАСТРЫЧНІКА**

**1810.** Нарадзіўся **Генрык Дмахоўскі** (1810 – 1863), беларускі скульптар, адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху ў Беларусі і Польшчы. У 1852 годзе апынуўся ў ЗША пад імем Генры Д. Сандэрс. Для будынка кангрэса ў Вашынгтоне стварыў бюсты Джорджа Вашынгтона, Томаса Джэферсана, Бенджаміна Франкліна, Тадэвуша Касцюшкі, якія і сёння ўпрыгожваюць памяшканне кангрэса ЗША. Зрабіў медальёны з сілуэтамі пакараных смерцю дзекабрыстаў, бюст Л. Кошута, скульптурную групу "Гарыбальдзі з воінамі". У ЗША памерлі яго жонка і дзеці, пахаваныя ў Філадэльфіі, на іх магілах ён паставіў помнік з беласнежнага мармуру. Пасля смерці родных ён пераехаў у Вільню, дзе адкрыў скульптурнае атэлье. Сярод найлепшых твораў, зробленых у гэты час, – мадэль надмагільнага помніка Барбары Радзівіл, помнік Уладзіславу Сыракомлю, інш.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Барысу Доніну ўручылі медаль Францыска Скарыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барыс Донін атрымаў узнагароду з рук прэм'ер-міністра Беларусі Андрэя Кабякова.**

Пасля ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання Барыс Ільіч запрасіў нас у тэатр, каб падзяліцца сваімі ўражаннямі.

Медаль разам з пасведчаннем Барыс Ільіч захоўвае ў шуфлядзе грыміравальнага століка.

– Пакуль не насіў яшчэ, – пачынае размову Барыс Донін, – толькі ў Палацы Рэспублікі, дзе было ўганараванне, надзеў, сфатаграфаваўся і зноў зняў. Гэты медаль пакіну ў спадчыну ўнукам. Не сорамна ўжо за тое, што пражыў.

Пра тое, што Барыс Донін увайшоў у лік тых, каго ўзнагародзяць сёння, стала вядома яшчэ 31 мая, а вось калі адбудзецца сама ўрачыстасць, не паведамлялі доўга.

– Цікава атрымалася. Напярэдадні ўзнагароджання ў нас у тэатры працавала тэлебачанне. Рабілі сюжэт пра тэатр, здымалі інтэрв'ю, рэпетыцыі. І вось журналістка пытаецца ў мяне, калі ж узнагароджанне. Я адказваю, што пакуль не дадуць, не памру. У нядзелю ў эфір выйшла гэта перадача, а ў панядзелак пазванілі і запрасілі на ўручэнне.

Барыс Ільіч расказвае, што нават не само ўручэнне было найбольш прыемнае, а дарога дадому.

– Назад з вялізным букетам кветак я вяртаўся ў маршрутцы. І калі ўжо выходзіў у Маладзечне, мяне стала віншаваць абсалютна незнаёмая мне спадарожніца. Вось словы гледачоў пра тое, што яны любяць наш тэатр і ведаюць, што мяне адзначылі ўзнагародай, каштуюць дорага.

**– А калегі з тэатра павіншавалі?**

– Хтосьці павіншаваў, хтосьці не. А 25 лістапада мяне ў тэатры будуць віншаваць з узнагародай, так сказаць, афіцыйна. У гэты дзень будзе спектакль "Не такі, як усе", таму, карыстаючыся магчымасцю, запрашаю ўсіх аматараў тэатра далучыцца да святкавання.

Барыс Донін прызнаецца, што цяпер мусіць адпрацоўваць высокую ўзнагароду яшчэ гадоў пяць, не менш.

– У тэатры цяпер працы хапае, рыхтуецца прэм'ера, хутка Новы год і новыя ролі ў дзіцячых ранішніках. Вось цяпер выклікаў да сябе дырэктар тэатра **Юры Крывенькі**, сказаў, што праз чатыры дні ў нас спектакль. А я за сваё тэатральнае жыццё не сарваў ні аднаго спектакля, таму мушу падрыхтавацца за чатыры дні. Цяжка, але ж у гэтым асалода ад прафесіі.

**– Няўжо ні разу не адмовіліся ад ролі?**

– Прызнацца шчыра, толькі раз, калі надта не хацеў іграць міліцыянера ў казцы "Прынц Мамабук". Вось тады прыйшоў на рэпетыцыю ў нямецкай ваеннай форме, мяне рэжысёр **Мацкевіч** выгнаў са сцэны, але і ролю гэту са спектакля прыбраў, чым я быў вельмі задаволены.

Барыс Донін прызнаецца, што вось самому даявлялося аднойчы амаль сарваць спектакль.

– Ігралі спектакль "Вяселля не будзе", у апошняй сцэне само вяселле, застолле. І вось я прынёс спірт, наліў партнёру ў келіх, ён выпіў і раптам у яго заняло дыханнне. Ап'янеў імгненна. Вырубіўся. Я тады атрымаў па мазгах.

А ў народным тэатры з Барысам Доніным сыгралі падобны жарт, пасля якога ён апынуўся на бальнічным ложку.

– Ігралі спектакль "Сарачанская каша", у якім па сюжэце я павінны быў есці кашу. Замест кашы насыпалі цукар. Не, каб зьмітаваць, што я ем, дык я на поўным сур'ёзе запхнуў у рот цэлую лыжку цукру. Стаў гаварыць, а я не магу гаварыць, задыхаюся. Ледзьве выратавалі тады.

Але да сваёй прафесіі Барыс Донін ставіцца як да свята.

– Ну, як можна не любіць тэатр? Ты займаешся любімай справай, а табе за гэта яшчэ плацяць грошы.

Ну, у якой яшчэ прафесіі вяртаешся дадому пад апладысменты ўдзячнай публікі?

**Наталля ТУР.**



Барыс Донін у сваёй грымёрцы расказвае пра тое, што ўзнагароды чакаў шэсць гадоў. Затое цяпер захоўвае яе на працоўным месцы. Фота Наталлі ТУР.

**Даведка "РГ".** Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджваюцца работнікі адукацыі і культуры за выдатныя дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, значны асабісты ўклад у развіццё і множанне духоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу, культурнай спадчыны беларускага народа. Медалём могуць узнагароджвацца і замежныя грамадзяне. Медаль Францыска Скарыны ўручаецца ад 1990 года. У розныя гады ім былі ўзнагароджаныя: Ніл Гілевіч, Максім Танк, Васіль Быкаў, Генадзь Каханоўскі, Рыгор Сарока, Адам Мальдзіс, Віктар Роўда. Сёлета, акрамя Барыса Доніна, узнагародзілі яшчэ адну прадстаўніцу Маладзечаншчыны – кампазітара Алену Атрашкевіч.

## На Вілейшчыне адзначылі 345-годдзе Піліпа Орліка

ВІЛЕЙКА

**Юбілейную дату гетмана Украіны, аўтара першай украінскай канстытуцыі Пілапа Орліка адзначылі на яго радзіме, у вёсцы Касута.**

Кіраўнік таварыства "Краяны" **Леанід Лысакабылка** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што напярэдадні святкавання ў вілейскім музеі адкрылася выстава, на якой былі прадстаўленыя дакументы, фотаздымкі, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Піліпа Орліка. Другі раздзел выставы быў прысвечаны гісторыі вёскі Касута.

Таксама у музеі працавала выстава дзіцячых малюнкаў, якія даслалі на конкурс, прысвечаны Піліпу Орліку.

У дзень нараджэння Піліпа Орліка дэлегацыя, у склад якой увайшлі **Валер Джыгун**, дарадчык пасла, **Галіна Калюжная**, старшыня камісіі па ўшанаванні памяці Піліпа Орліка, усклалі кветкі да помніка, які ўсталявалі ў вёсцы Касута 10 гадоў таму.

– Мерапрыемства гэта штогадовае, але сёлета дата юбілейная, таму да ўрачыстасцяў падышлі сур'ёзна, – падсумаваў Леанід Лысакабылка.

**Наталля ТУР.**






Усе фота Леаніда ЛЫСАКАБЫЛКІ.





**На фота ўдзельнікі святкавання 345-годдзя з дня нараджэння Піліпа Орліка, мемарыяльная дошка Піліпу Орліку ў Касуце, Галіна Калюжная падчас выступлення ў музеі.**

# Бралі грошы на вяселле, а потым развяліся

## Некалькі невясёлых крэдытных гісторый

**Сёння ў Беларусі бум на спажывецкія крэдыты. Падзенне працэнтных ставак, стабільнасць беларускага рубля робяць іх прывабнымі.**

Часам людзі забываюць, што крэдыты – гэта не лёгкія грошы і што іх давядзецца вярнуць. Журналісты сабралі гісторыі людзей, якія не разлічылі свае сілы і апынуліся ў складанай фінансавай сітуацыі.

### Аліна, бухгалтар: “Умовы крэдыту нас не цікавілі”

– На трэцім курсе вучобы ва ўніверсітэце мы з хлопцам вырашылі пажаніцца. З ім пачалі сустракацца яшчэ ў школе, паступілі ў адзін універсітэт, і я была ўпэўненая, што нашу сям’ю нішто не разбурыць. Таму і свята хацелася вялікага і шыкоўнага, – распавядае жанчына.

Але бацькі маладых былі супраць вяселля і аплачваць яго не хацелі:

– Мы абое падзараблялі, – прыгадвае **Аліна**. – Аднак накапленняў у нас не было.

Тады закаханыя вырашылі аформіць крэдыт.

**Узялі шэсць тысяч і былі ўпэўненыя, што змогуць пагасіць іх адразу ж пасля вяселля з падораных грошай.**

– Умовы крэдыту нас нават не цікавілі: мы ж вернем яго літаральна праз месяц, – распавядала Аліна.

Урачыстасць рабілі ў рэстаране, купілі шыкоўныя ўборы, упрыгожылі залу і запрасілі 30 чалавек. Усё прайшло добра.

Але калі раніцай пачалі лічыць падораныя грошы, высветлілася, што там няма і паловы ад патрэбнай сумы.

Маладыя зусім не думалі, што амаль усе іх госці – гэта студэнты, у якіх няма мільёнаў на падарункі.

З усіх канвертаў муж і жонка дасталі каля дзвюх тысяч і ўсе гэтыя грошы адразу ж аднеслі ў банк. А што рабіць з астатнімі чатырма тысячамі крэдыту, не мелі паняцця.

Аліна спрабавала прымусіць мужа знайсці яшчэ адну працу. Але ён сышоў і з першай: быў на мяжы адлічэння ў ВНУ і хацеў больш часу прысвяціць вучобе.

– Маёй зарплаты ў 200-250 рублёў ледзь хапала на прадукты, не кажучы ўжо аб выплатах па крэдыце, – прыгадвае субяседніца. – Доўг рос не толькі з-за працэнтаў, налічвалася і няўстойка, а грошай дома не прыбаўлялася.

Праз тры месяцы Аліне ўпершыню патэлефанавалі з банка. Пагражалі судом, калі не пачне плаціць. Тады ў маладой сям’і пачаліся скандалы з-за грошай.

**Праз сем месяцаў шлюбу вырашылі развесціся. Крэдыт быў афармлены на Аліну, і яна засталася з доўгам у пяць тысяч.**

Жанчыне давялося расказаць пра гэта бацькам. Разам яны спрабавалі хоць бы частку грошай атрымаць ад бацькоў мужа, але нічога не атрымалася, толькі адносіны сапсавалі.

Доўг Аліны пагасілі бацькі з грошай, якія збіралі на машыну.

– Цяпер я адкладаю частку грошай з кожнай зарплаты, – прызнаецца Аліна. – Хачу дакласці бацькам суму, якую яны патрацілі па маёй віне.

### Віталь, работнік крамы: “Гэта было проста замкнёнае кола”

– Мая крэдытная гісторыя пачалася шэсць гадоў таму і цягнецца да гэтага часу, – пачынае расповед мужчына. – Я атрымаў адукацыю ў Баранавічах і пераехаў у Мінск.

Там Віталь працаваў на прадпрыемстве па зборцы тэлевізараў і завочна вучыўся на платным аддзяленні. Зарабляў на той час нядрэнна, 500-600 рублёў. Мужчына не толькі забяспечваў сябе, але і стараўся дапамагчы бацькам, якія задумалі рамонт.

Менавіта для гэтага аформіў крэдыт на тысячу рублёў. Хацеў закупіць будматэрыялы і паставіць вокны, але гэтых грошай не хапіла. Прыйшлося яшчэ раз узяць такую ж суму.

У гэты час на прадпрыемстве, дзе працаваў Віталь, пачаліся праблемы: не было рынку збыту. Зарплаты работнікаў рэзка папаўзлі ўніз. Каб неяк вырашыць праблему з існуючымі крэдытамі, даводзілася браць новыя.

Частка атрыманых грошай сыходзіла на жыццё, астатнія – на пагашэнне мінулых крэдытаў.

Гэта было проста замкнёнае кола! – прыгадвае суразмоўца.

Тады на паўстаўкі Віталь уладкаваўся ў гандлёвую сетку. Там атрымліваў каля 200 рублёў, але на асноўнай працы справы станавіліся ўсё горш і горш. Грошай не было, людзі звальняліся.

Неўзабаве сышоў адтуль і Віталь. Яго запазычанасць па крэдытах да таго моманту складала каля 40 тысяч. Банкі, якім ён быў павінны, падалі ў суд.

Па яго рашэнні, палова заробку Віталя сыходзіць на пагашэнне крэдытаў.

– Тады мне было вельмі страшна, – прыгадвае Віталь. – Здавалася, на пагашэнне крэдытаў сыдзе ўсё жыццё!

Пасля Віталь вымушаны быў вярнуцца ў Баранавічы. Уладкаваўся працаваць у краму. Цяпер яго заробак – 400 рублёў. Палова адразу сыходзіць у банк.

Пражыць месяц за 200 рублёў складана: адны толькі камунальныя плацяжы 100 рублёў. Цяпер запазычанасць Віталя – каля 20 тысяч. Віталь разлічвае вярнуць яе праз тры гады.


Крэдыты псуюць адносіны і з банкамі, і са сваякамі.

Фота tinkoffpro.ru

### Таццяна, медсястра: “Пацярпела ад уласнай дабрыні”

– У 2008 годзе мая дачка выйшла замуж. Разам з мужам яны вырашылі зладзіць сабе вясельнае падарожжа, – дзеліцца сваёй гісторыяй Таццяна.

Грошай на адпачынак у маладых не было, і яны ўзялі ў крэдыт 2000 даляраў. Мяне папрасілі быць паручыцелем.

Маці іх не адгаворвала: дачка і зяць працавалі, таму выплаты па крэдыце былі б не вельмі прыкметнымі для сямейнага бюджэту. Вярнуўшыся з Егіпта, маладыя пачалі патроху вяртаць доўг.

**Але абставіны склаліся так, што ў маёй дачкі з’явіліся праблемы са здароўем. На лячэнне трэба было 3000 даляраў. Ні ў каго са сваякоў такіх грошай не было.**

Дачка з мужам узяла яшчэ адзін крэдыт, а Таццяна зноў стала паручыцелем. Не прайшло і двух месяцаў пасля лячэння дачкі, як яна зацяжарала. Яе муж звольніўся з працы і вырашыў пачаць сваю справу: заняцца грузаперавозкамі.

Перашкода была толькі адна: у яго не было вялікай машыны. Калі яны зноў загаварылі пра крэдыт, Таццяна ўжо была супраць.

Але дачка пераканала маму, што гэта дасць магчымасць у некалькі разоў павялічыць даход сям’і.

– А як я магла не падтрымаць дачку? – не разумее жанчына.

Крэдыт на грузавік – 10000 долараў – вырашылі аформіць на Таццяну, але выплачваць яго абяцалі дзеці.

Гэта быў час, калі вельмі вырас долар. Жанчыну гэта палохала, бо ўсе крэдыты былі валютнымі.

Аднак дачка супакойвала: муж пачаў добра зарабляць, таму з крэдытамі яны разбяруцца без праблем.

**Так бы, напэўна, і было, мяркуе Таццяна, калі б не аварыя: зяць заснуў за рулём і ўехаў у дрэва. Сам жывы застаўся. А вось машына рамонту не падлягала.**

Зяць згубіў працу, дачка ў дэкрэце, а крэдыты, якіх тады заставалася каля 12000 долараў, нікуды не зніклі. Паколькі самы вялікі крэдыт быў афармлены на Таццяну, а ў астатніх двух жанчына выступала паручыцелем, ёй і давялося іх выплачваць.

З заробкам у 150 долараў прыходзілася нялёгка. Таццяна пачала падпрацоўваць: у непрацоўны час ездзіла на дом ставіць кропельніцы і рабіць уколы, прыязджала глядзець за старымі, калі ім станавілася дрэнна.

У выніку з крэдытам жанчына разлічылася, але адносіны з сям’ёй дачкі ў яе да гэтага часу напружаныя.

– Не магу паверыць, – кажа Таццяна, – што я пацярпела ад уласнай дабрыні.

### Аб’ём спажывецкіх крэдытаў працягвае расці

Ад жніўня 2016 года аб’ём крэдытаў, выдадзеных на спажывецкія патрэбы, у Беларусі вырас на 46%, паведамляе Нацбанк. На 1 жніўня 2017 года запазычанасць фізічных асоб па крэдытах на спажывецкія патрэбы склала рэкордныя 2,26 мільярда рублёў і вырасла за год на 717,5 мільёна рублёў.

**Кацярына БУБЕН,**
**Intex-press.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Запіс хадоў у шахматнай партыі – шлях да логікі і парадку ў штодзённым жыцці

**Напэўна, толькі ў сталым узросце пачынаеш разумець розныя маленькія тонкасці ў жыцці, якія важныя як у звычайнай клапатлівай паўсядзённасці, так і ў шахматнай партыі.**

Дзядкі ў дварах часам гуляюць у шахматы. Яны гуляюць у сілу 3-2 разраду. Гуляюць шматшмат партый, але як гулялі на трэці разрад, так і засталіся дзесяці там. Адна з памылак дзядкоў – адсутнасць запісу і наступнага аналізу партый. Не паўтарайце памылак дзядулек!

Добры дзень, мяне завуць **Віталь Качаткоў**. Сёння і заўсёды будзем казаць аб галоўнай лагічнай гульні чалавецтва – шахматах.

Вучыцеся запісваць шахматныя партыі, запісвайце іх і потым праглядайце, каб выпраўляць памылкі. Гэта самы прагрэсіўны і хуткі метад шахматнага росту. Шахматныя партыі – гэта шахматныя думкі. Часта, калі вучань прыходзіць да трэнера, трэнер пытаецца пра партыі. Калі партый няма – бяда. Таму што няма партый – няма думкі.

Асэнсаванне і прагрэс у навучанні запісу партый – прагрэс у вывучэнні жыццёвага арганайзера. Запіс шахматных хадоў – гэта паслядоўны запіс дзеянняў. Якая розніца, якія пасля гэтага будуць дзеянні – шахматныя або складаны навуковы эксперымент, ці нават пракладка трубаправода ў прыватным доме? Калі сантэхнік прыходзіць без "паперкі", прымітыўнага запісу хадоў, усё спрабуе трымаць у галаве, то часта адбываецца сумны вынік. Нешта прапускае, забываецца... А калі ўсе хады запісаныя, тады звычайна ўсё атрымоўваецца выдатна.

Лічу, што запіс шахматных хадоў, навучанне запісам хадоў, прывучванне да запісу хадоў – надзвычай важны першапачатковы этапператварэнне малпы ў чалавека.

Падсумоўваем: запісваем хады, дасылаем вашы шэдэўральныя партыі ў рэдакцыю, і лепшыя з іх прааналізуем і апублікуем. Прыклад запісу шахматнай партыі: 1.e4 e5 2. Cc4 Cc5 3. Фf3 d6 4. Ф: f7X.

Цяпер невялікі разбор. 1. e4 – значыць, што белая пешка з поля E2 пайшла на поле E4. 1 ... E4. Чорная пешка з E7 пайшла на поле e5. Першымі свае хады і белыя, і чорныя зрабілі, напэўна, самыя папулярныя. У шахматнай тэорыі ўсе пачаткі, якія ідуць пасля гэтага першага ходу, называюцца адкрытымі дэбютамі. Далей у белых і чорных шмат варыянтаў развіцця.

Самыя папулярныя на сёння ў белых – гэта другі ход 2. Kf3. Гэта значыць, што конь g1 ходзіць на f3. Але белыя пайшлі 2. Cc4 – сланом з f1 на c4. Ход быў папулярны ў пазамінулым стагоддзі, і вызначае назву дэбюту: дэбют слана. 2 ... Cc5 – чорныя адказваюць люстраным паўторам – выводзяць чорнага слана f8 на C5. Ход нядрэнны, але магчымыя таксама добрыя хады канямі – ці Кc6, ці Kf6.

3. Фf3?! – белы ферзь ідзе з d1 на f3. Ход-пастка шахматыста пачатковага ўзроўню. З "узростам" разумееш, што ранняе развіццё ферзя не ёсць добрае і годнае выхаванне. Паставілі пытальнік і клічнік да ходу ў знак яго ацэнкі як сумнiўнага. Гэта значыць, ход не памылковы, але і вельмі спрэчны.

Лепш больш салідны варыянт 3.Kf3 – конь з g1 ідзе на f3. У бой уступае і развіваецца лёгкая фігура конь, і рыхтуецца кароткая ракіроўка за белых.

3... d6?? Чорная пешка з d7 пайшла на d6. Найгрубейшая памылка, якая губіць партыю. Трэба было проста пайсці Kf6 – конь з g8 на f6. Конь бы перакрыў дзеянне белага ферзя па вертыкалі f, развіўся і падрыхтаваў бы для чорных ракіроўку – сховішча чорнаму каралю. А так атрымліваем імгненнае пакаранне – чорнага караля бяруць у палон.

4. Ф: f7! Х-ферзь з f3, б'е на f7 – мат. Вылазку белага ферзя падтрымаў белы слон з c4, і гэтае элементарнае і простае ўзаемадзеянне двух белых фігур прывяло да голу. Выбачайце, да мата...

Усім добрага настрою. Вывучайце шахматы. Гуляйце ў шахматы. У гэтым вам дапаможа і мая кніга-дыяграма "Мат у адзін ход", што прадаецца ў крамах "Белкніга", "Сантэхніка-плюс" у Маладзечне па Чкалава, 4 і ў "Кофф" на Ларына, 2-а – на "Лясных".



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**



Фота Наталлі ГУР.

**Эмоцыі фанатаў ФК "Маладзечна" пасля таго, як на апошняй хвіліне матча варатар каманды Радзівон Субач прапусціў пяты гол у свае вароты.**

# ФК "Маладзечна" недарэчна прайграе і з'язджае на 7-ы радок

МАЛАДЗЕЧНА

**Восень нас звычайна нічым не здзіўляе: на фоне ўсеагульнага суму звыкла цярушыць дождж, звыкла ападае з дрэў лісце, а ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" зноў заканчвае сезон на невясёлай ноце, звыкла апускаючыся ўніз па турнірнай табліцы менавіта ў апошніх турах.**

У двух папярэдніх сезонах каманда аж да самай канцоўкі мела рэальныя шанцы здабыць пуцёўку ў першую лігу, аднак у абодвух выпадках заканчвала чэмпіянат серыяй без перамог і без пуцёўкі. На старце гэтага года мы мелі вялікія надзеі на тое, што справа зрушыцца з мёртвай кропкі. Але зноў нашы чаканні аказаліся нашымі ж праблемамі, як любіў гаварыць зорка расійскага футбола – **Андрэй Аршавін**.

Нашы мясцовыя зорачкі таксама бываюць красамоўныя, але на футбольным полі атрымлівалася ў іх у гэтым годзе не вельмі. У многіх матчах зыход вырашаўся ў барацьбе, на апошніх хвілінах – "на тоненькага", як любіць казаць самы знакаміты беларускі каментатар. Прычым часцей за ўсё вырашаўся не на нашу карысць.

Так было і ў мінулую суботу. Калі на 36-й хвіліне пры ліку 3:1 на карысць гаспадароў суддзя за нецэнзурныя выказванні ў свой адрас выдаліў гульца прыезджай каманды, можна было выказаць здагадку, што маладзечанцы здабудуць чарговую лёгкую перамогу, але ўсё зноў перавярнулася з ног на галаву.

У канцоўцы першага тайма госці адставанне скарацілі, а ў пачатку другога увогуле лік зраўнялі.

**Сяргей Кошаль, які ў гэты дзень быў адзіным, хто адмаўляўся плыць па плыні (на яго рахунку хет-трык), яшчэ раз вывеў "Маладзечна-ДЮСШ-4" наперад, але гэтай камандзе перамога была непатрэбная – гульцы цалкам камфортна сябе адчувалі ў ролі няўдачнікаў.**

Неяк надта спакойна каманда, што дзейнічала ў меншасці, лік зраўняла, а потым яшчэ і шчаслівы білет выцягнула ў канцоўцы, тады як нашым хлопцам адчайна не шанцавала.

Каманда Дараховіча зноў прайграла, зноў пакінула да сябе пытанні і горкі асадак у душах заўзятараў. Яны ў чарговы раз не дазволілі сабе масава крытыкаваць футбалістаў, вырашыўшы іх зноў падтрымаць. Менавіта гэты, дванаццаты, гулец за ўвесь сезон ні разу не схібіў, ні разу не заслужыў папрокаў у свой адрас і па праве можа лічыцца самай карыснай часткай клуба. У астатніх вінцікаў каманднага механізму ёсць яшчэ адзін хатні матч, каб пакінуць аб сабе больш прыемнае ўражанне перад зімовай паўзай.

У бліжэйшую суботу "Маладзечна-ДЮСШ-4" сустракаецца з адным з аўтсайдараў – пінскім "СДЮШАР-3". Прыходзьце на "Гарадскі". Калі не футбол паглядзець, то палюбавацца восеньскімі краявідамі, падумаць, пасумаваць. Разам сумаваць весялей.

## Турнірная табліца. Другая ліга

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ЮАС | 24 | 18 | 5 | 1 | 57-11 | 59 |
| 2 | Чысць | 24 | 18 | 2 | 4 | 74-26 | 56 |
| 3 | Клецк | 24 | 15 | 3 | 6 | 65-34 | 48 |
| 4 | Ашмяны-БДУФК | 24 | 16 | 3 | 5 | 85-26 | 46 |
| 5 | Вікторыя | 24 | 12 | 5 | 7 | 45-28 | 41 |
| 6 | Спадарожнік | 24 | 12 | 4 | 8 | 50-24 | 40 |
| 7 | Маладзечна-ДЮСШ 4 | 24 | 11 | 6 | 7 | 61-36 | 39 |
| 8 | СМІ-Аўтатранс | 24 | 10 | 3 | 11 | 46-55 | 33 |
| 9 | Энэргетык-БДАТУ | 24 | 8 | 5 | 11 | 40-48 | 29 |
| 10 | Узда | 24 | 8 | 4 | 12 | 43-59 | 28 |
| 11 | Любань | 24 | 6 | 3 | 15 | 33-72 | 21 |
| 12 | Зборная ТФ | 24 | 4 | 4 | 16 | 30-75 | 16 |
| 13 | СДЮШАР-8 | 24 | 3 | 1 | 20 | 22-88 | 10 |
| 14 | СДЮШАР-3 | 24 | 3 | 0 | 21 | 21-90 | 9 |

### ФК "Чысць" выходзіць у першую лігу

Перамогай над камандай з Любані з разгромным лікам 7:1 ФК "Чысць" забяспечыў сабе выхад у першую лігу загадзя, за два туры да канца чэмпіянату.

Калі маладзечанцы сыходзілі з футбольнага поля, панура апусціўшы галаву, то ў Маладзечанскім раёне ў гэты час разлівалі шампанскае і падкідалі на "ўра" галоўнага трэнера **Дзяніса Мятліцкага**.

На пытанне да Дзяніса, як жа Чысці ўдалося так удала сыграць сезон, ён адказаў:

– Цягам усяго сезона ў хлопцаў была вялізная самааддача і прага выйграць чэмпіянат.

**Сяргей УЛАДЫКА.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Негарманічнае спалучэнне музычных гукаў, парушэнне сугучнасці.
5. Назавіце прозвішча пісьменніка-фантаста, які таксама быў вядомым гісторыкам і аўтарам трохтомніка па гісторыі геаграфіі "Гісторыя вялікіх падарожжаў".
6. Уважлівы, спагадлівы; добразычлівы.
10. Частка цела чалавека, размешчаная на твары, якая ніколькі не важыць.
11. Салодкі моцны спіртны напітак.
13. Прылада для акурвання пчол.
14. Уладзімір Караткевіч: "… – смерць. Ідзі вышэй сіл сваіх, і станеш жыць доўга".
16. Птушка, якая мае на галаве чуб.
18. Агульная назва лёгкіх пасажырскіх павозак.
19. Вёска ў Астравецкім раёне, у якой усталяваны помнік паўстанцам 1863 года ў выглядзе вялікага мяча.
20. Адварот на грудной частцы вопраткі, якая зашпільваецца.
24. Старажытнагрэчаскі філосаф, які на словы Аляксандра Македонскага: "Прасі ў мяне, што хочаш" адказаў: "Не засланяй мне сонца".

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Населены пункт у сучасным Смаргонскім раёне, даўняе магдэбургскае мястэчка гістарычнай Ашмяншчыны. Да нашага часу тут захаваліся касцёл Найсвяцейшай Тройцы і калегіум езуітаў, помнікі архітэктуры рэнесансу.
3. Агульная назва напрамкаў у эвалюцыйным вучэнні, якія разглядаюць гістарычнае развіццё жывой прыроды як прамое прыстасаванне арганізмаў да навакольнага асяроддзя.
4. Байран казаў, што адной іх кроплі дастаткова, каб узбудзіць думку ў мільёна людзей.
7. У більярднай гульні – удар шарам у другі шар, які, ударыўшыся аб борт і адскочыўшы ад яго, трапляе ў лузу.
8. Мастацтва запамінання і ўспамінання, названае ў гонар адпаведнай старажытнагрэчаскай багіні.
9. Сукупнасць слоў мовы ці дыялекта.
12. Кіраўнік прадпрыемства.
15. Травяністая духмяная расліна сямейства губакветных з дробнымі ружова-ліловымі ці белымі кветкамі.
16. Пэўны парадак, паслядоўнасць.
17. Назва гэтай прафесіі паходзіць ад выпадку, калі канадскія хакеісты ўпершыню прыехалі ў СССР. Яны не захацелі прызнаваць шлемы і дэманстратыўна зрывалі іх.
20. Саюз, аб'яднанне асоб, арганізацый, дзяржаў з грамадска-палітычнымі мэтамі.
21. Паліграфіст.
22. Гэта афрыканская краіна вядомая любоўю да футбола. Аднойчы тут спынілі ваенныя дзеянні дзеля матча.
23. Паводле біблейскага падання – вялізнае марское страшыдла ці лятаючы дракон.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №41. Па гарызанталі.** 1. Цагельня. 2. Пальцы. 6. Супраць. 7. Золата. 8. Суверэн. 9. Стаж. 10. Цвік. 13. Эра. 16. Ілья. 17. Эпас. 18. Эшафот. 19. Свердзел. 21. Стан. **Па вертыкалі.** 3. Алмаз. 4. Грыбы. 5. Цаля. 8. Стома. 9. Стакан. 10. Цукар. 11. Вальтэр. 12. Арканзас. 14. Кефір. 15. Рабат. 18. Эксперт. 19. Скуеш. 20. Пошта.



## ГАРАСКОП 20-26 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** Цяпер можна марыць пра будучае, распрацоўваць новыя ідэі, але вам нешта будзе перашкаджаць. Таму ляжыце на канапе і думайце пра цудоўнае.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакаюць сур'ёзныя перамены, шматлікія справы могуць пайсці на спад, але разам з гэтым на спад могуць пайсці і канфлікты. Прымаць якія-небудзь важныя рашэнні цяпер не варта, так як рэалізаваць што-небудзь пакуль не ўдасца. Але затое ў вас ёсць шмат часу і магчымасці, каб распланаваць сваю дзейнасць на будучыню.



**БЛІЗНЯТЫ.** Усё мяняецца, і вы таксама. Не чапляйцеся за мінулае, лепш яго адпусціце. Новае знаёмства дасць магчымасць паглядзець інакш на жыццё і свет вакол вас. А на працы не чакайце імгненнага ўзнагароджвання. Поспех прыйдзе, але не адразу і не без цяжкасцей.



**РАК.** Добры перыяд, каб вырашаць усялякія матэрыяльныя пытанні, а таксама ўсё, што звязанае з цесным ўзаемадзеяннем паміж людзьмі, заключаць дагаворы і нават браць шлюб.



**ЛЕЎ.** Вам трэба зрабіць важны выбар. Вы даўно чакалі нейкай прапановы і хутка яе атрымаеце. Няхай вас не мучаць сумненні, пагаджайцеся. Каб усё атрымоўвалася, напаўняйце сваё сэрца любоўю і цеплынёй.



**ДЗЕВА.** Пастарайцеся ўдзяляць больш увагі свайму здароўю, паклапаціцеся пра тое, каб у вашым штодзённым рацыёне было больш гародніны і фруктаў. У асабістых адносінах магчымыя ўскладненні. Звязана гэта з тым, што вы шукаеце не простага пачуцця, а стараецеся знайсці ў адносінах уласную выгаду.



**ШАЛІ.** Будзьце вышэй за непрыемныя дробязі і не забывайце пра пачуццё гумару – яно ператворыць трагедыю ў камедыю і засцеражэ ад сварак.



**СКАРПІЁН.** Вы творца свайго шчасця, не ўпусціце гэты залаты час. Вы зможаце аказацца на грабяні хвалі, калі таго шчыра пажадаеце. Пастаўце сабе канкрэтную мэту, і імкніцеся да яе дасягнення.



**СТРАЛЕЦ.** Вы можаце стаць заметнай фігурай на рабоце. Вашы навыкі і досвед будуць карысныя калегам, вы лёгка заваюеце павагу начальства. Але прыйдзецца шмат папрацаваць у розных галінах, каб стаць незаменным супрацоўнікам. Ну, а асабістыя справы прыйдзецца адсунуць на задні план.



**КАЗЯРОГ.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя. Перыяд будзе звязаны з вялікай колькасцю хваляванняў і клопатаў. Аднак адносіны паміж сваякамі, каханым будуць вельмі добрыя, вас будуць падтрымліваць, заспакойваць. Гэта дасць новыя сілы.



**ВАДАЛЕЙ.** Галоўным рабочым выклікам стане неабходнасць удасканальвання. Не супрацiўляйцеся гэтаму. Якім бы вы спецыялістам ні былі, заўсёды ёсць магчымасць пазнаць нешта новае.



**РЫБЫ.** Давядзецца праявіць гнуткасць розуму і максімум кемлівасці. Паглядзіце на сітуацыю, не перастарайцеся з ціскам на навакольных, а па некаторых дробязях можна і ўступіць. Добры час для падвядзення вынікаў, у тым ліку для аналізу бюджэту, даходаў і расходаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 5 | | 9 | 2 | |
| 8 | 1 | | | | | | | 7 |
| | | | 3 | 7 | | | | |
| | | | | | 7 | 1 | 3 | |
| | 3 | 1 | 9 | | 2 | 5 | 6 | |
| | 2 | 6 | 1 | | | | | |
| | | | | 6 | 3 | | | |
| 6 | | | | | | | 4 | 1 |
| | 7 | 9 | | 1 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**21 кастрычніка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +3 / +9 | | +4 / +6 | | +5 / +6 | | +6 / +7 | |
| | 746 | ↖ 5 | 744 | ↖ 6 | 742 | ↖ 7 | 738 | ↖ 8 |
| **Вільня** | +3 / +9 | | +5 / +8 | | +5 / +7 | | +8 / +4 | |
| | 752 | ← 4 | 749 | ↖ 6 | 747 | ↖ 6 | 743 | ↖ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.54
Захад 18.00
Даўжыня дня 10.06

Усход 9.15
Захад 19.13
Квадра 1




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -7,5 °С у 1994 годзе
Максімальная тэмпература +14,2 °С у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,3 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ветэранам Вялікай Айчыннай слалі віншавальныя паштоўкі і запрашалі на сустрэчы са школьнікамі. Афганцам па-за чаргой давалі інтэрнаты і кватэры. "Атошнікаў" розныя грамадскія арганізацыі Украіны падтрымліваюць псіхалагічна. Ці дастаткова клопату ад дзяржавы адчувалі ў розныя часы яе героі-абаронцы?**



## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

* Задайце сябрам пытанне: Вінні Пух – гэта свіння ці кабан? 90% адказваюць "свіння", хаця правільны адказ – "мядзведзь".

* Маладая мама гуляе з гадавалым сынам і разважае ўслых:

– Шанцуе табе: прачнуўся, паеў, пагуляў, зноў ляжыш.

Муж з суседняга пакоя:

– Маю права! У мяне выхадны!



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якой павінна быць беларуская армія, каб хлопцы хацелі ў ёй служыць?



**Вольга Грыгарэнка, правізар:**

– Адкажу адным словам – бяспечная. Сітуацыя, што адбылася ў Печах, проста рве душу. Хоць гадую пакуль толькі дачку, не магу застацца абыякавай да лёсу таго хлопца.



**Часлаў Кульша, пенсіянер:**

– Армія павінна быць такой, якой яна была ў часы, калі я служыў на Украіне ў лётных войсках. За "самаволку" – на "губу". Адслужыў два гады – і дома. І ніякіх праблем у нас не было.



**Ірына Кужэлка, швачка:**

– Такой, каб салдату не страшна было служыць, а сваякам не страшна было чакаць.



**Ірына Качаванава, бухгалтар:**

– Лічу, што ідэальная армія можа быць толькі кантрактная.



**Марына Фёдарава, у дэкрэтным адпачынку:**

– Такой, каб у ёй да людзей ставіліся па-чалавечы. Мой муж служыў, армію ўспамінае добра. Але каб сын ішоў у армію, я не хацела б.



**Іна Радзівіловіч, прадавачка:**

– Ад вашага пытання – мурашкі па скуры. Адразу прыгадваецца выпадак у Печах. Але ў маёй сям'і ўсе служылі: адзін брат – у Валожыне, другі – у Брэсце. Трэці і цяпер служыць, якраз у Печах. У лістападзе дэмабілізуецца. Ні ён, ні іншыя браты ніколі не казалі пры сустрэчах, што ў арміі ім дрэнна.



**Арцём Гаварэнь, дзяржаўны судовы эксперт-стажор:**

– А я якраз іду з ваенкамата. Лічу, што армія павінна быць кантрактная. Захацеў – служы. Я да таго, калі пайшлі служыць сябры, у армію хацеў. Падабалася слухаць расповеды бацькі. Сябры пра "дзедаўшчыну" не казалі, толькі пра дарэмна змарнаваны час. А часу мне шкада. І выпадак у Печах вельмі насцярожыў. А раптам я туды траплю?

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1173) 20.10.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 988. Падпісана ў друк у 9.00 19.10.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.